

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ — Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 13 (4916) 31 сакавіка 2017 г.



# ШЛЯХАМ СУМЛЕННЯ

**За часам ужо забылася, і здаецца, што Курапаты былі ў нашым жыцці заўсёды, як крыж, які наканавана несці яшчэ не аднаму пакаленню, як пачуццё віны перад тымі бязвінна забітымі, што там ляжаць. Але ж насамрэч мінула ўсяго нейкіх дваццаць дзевяць гадоў, калі аб гэтых вялікіх могілках на ўскраіне Мінска ўпершыню загаварылі на ўвесь голас і на ўсю краіну. Дваццаць дзевяць гадоў таму, у чэрвені 1988 года, Беларусь адкрыла для сябе Курапаты. Здрыганулася ад гэтага страшнага, няпростага, але такога патрэбнага адкрыцця і пачала асэнсоўваць непазбежную праўду. Асэнсаванне тое працягваецца і па сёння. Менавіта ў «ЛіМе» з'явіліся першыя публікацыі пра жудасныя знаходкі ва ўрочышчы Курапаты. Менавіта гэтыя матэрыялы «ЛіМа» здолелі адкрыць шырокаму колу грамадства частку савецкай гісторыі, якая да гэтага старанна замоўчвалася.**


Фота БелТА.

Да самай першай публікацыі пад назвай «Курапаты — дарога смерці» напісаў прадмову пісьменнік Васіль Быкаў, лаўрэат Ленінскай прэміі. Урывак з гэтай прадмовы хочацца нагадаць сёння, каб было зразумела, чаму гэтае месца — кропка болю, дзе крывавіць гісторыя, якая не даруе занядбання:

«Як сведчаць некаторыя нашы даследчыкі, толькі ў Беларусі ў 30-я гады яжоўска-берыеўскім рэпрэсіям былі падвергнуты сотні тысяч чалавек. Значная частка іх была выслана на ўсход і поўнач краіны (Салавецкія астравы, Варкута, Калыма), а астатнія ліквідаваны на месцы — непадалёк ад іх месца жыхарства. Апошняе было танней, не загружала і без таго заўжды перагружаны чыгуначны транспарт. Але дзе канкрэтна ліквідаваны гэтыя многія сотні тысяч, у якой зямлі тлеюць іх белыя костачкі?

…Толькі, як даўно вядома, злачынствы кепска ўжываюцца з самай найсакрэтнай сакрэтнасцю. Рана ці позна яны выходзяць на свет божы, каб іншы раз закляйміць зло і засведчыць неабходнасць пільнасці.

У нас ёсць нямала велічных помнікаў ахвярам нямецкага фашызму, сведчанне гераізму беларускага народа ў барацьбе з гэтым заклятым ворагам чалавецтва. Але нішто яшчэ ў нас не напамінае пакаленням аб ахвярах сталіншчыны. Тое неправільна і недаравальна! Мы павінны памятаць аб іх — не героях, а бязвінных ахвярах тырана — спрацаваных рабочых, галодных калгаснікаў, першых народных інтэлігентах, мужчынах і жанчынах, — якія з куляю ў патыліцы клаліся ў самімі ж выкапаныя ямы, вымаўляючы не праклён, не пратэст, а адзінае, марнае і трагічнае слова «Завошта?»

Яны ўжо ніколі не пачуюць адказ на тое сваё пытанне, затое адказ на яго павінны зразумець мы…»

Гэтыя словы актуальныя і сёння, хоць прайшло амаль 30 гадоў. Але некаторыя трагедыі ўсведамляюцца пакаленнямі. Некалькі пакаленняў павінны прыняць праўду, якая гучыць вельмі жорстка, як у публікацыі за 16 верасня 1988 года: «Вось яно, наша світанне, у раскапаных магілах у Курапатах глядзіць на мяне пустымі вачніцамі, з якіх, нібы слёзы, высыпаецца, сыплецца жоўты пясок. Выбіраем рэшткі… Доўгія валасы жанчын, светлыя, нібы лён, выцягваем з-пад прастрэленых чарапоў, асцярожна, каб не парваць... Адна пасма, другая, трэцяя… гузік з-пад бялізны… Мінае працоўны дзень і ноччу прадаўжаецца ўсё ў свядомасці — цягну, бясконца выцягваю з-пад касцей кужэльныя валасы, светлыя, нібы лён, і няма ім канца…»

Яны нема клічуць. Каб не была нямой наша памяць і наша жыццё. Каб мы цяпер сказалі сваё слова — праз памяць і справы. Каб нашы пакаленні маглі пакінуць пасля сябе толькі сляды жыцця.

Працяг тэмы на стар. 2

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ, у адпаведнасці з якім больш як 40 прадстаўнікоў розных сфер дзейнасці ўзнагароджаны ордэнамі і медалямі за шматгадовую і плённую працу, высокае прафесійнае майстэрства, дасягненне высокіх вытворчых паказчыкаў. У ліку ўзнагароджаных ордэнам Францыска Скарыны — мастак-графік, член Беларускага саюза мастакоў Уладзімір Савіч; медалём Францыска Скарыны — намеснік дырэктара Маладзёжнага тэатра эстрады Аляксандр Далжэўскі. Акрамя таго, прадстаўнікам розных сфер дзейнасці прысвоены ганаровыя званні. У прыватнасці, заслужаным артыстам Рэспублікі Беларусь стала артыст драмы — вядучы майстар сцэны Гродзенскага абласнога драматычнага тэатра Святлана Літвінёнак.

✔ Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка накіраваў спачуванне родным і блізкім народнага мастака Беларусі Мая Данцыга. «Прыміце мае глыбокія спачуванні ў сувязі з адыходам з жыцця выдатнага мастака, педагога і цудоўнага чалавека. Май Вольфавіч пражыў яркае, насычанае жыццё, дасягнуў сапраўдных прафесійных вышынь і ўпісаў незабыўную старонку ў гісторыю сучаснага выяўленчага мастацтва», — гаворыцца ў спачуванні. Прэзідэнт адзначыў, што творчасць мастака атрымала ўсенародную любоў і павагу калег. Май Данцыг выхаваў некалькі пакаленняў маладых мастакоў і быў прыкладам самаадданага служэння сваёй Радзіме.

✔ На Парыжскім кніжным салоне ўрачыста адкрыўся беларускі павільён, галоўная задача якога — прыцягнуць увагу замежнай грамадскасці да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання, што адзначаецца сёлета пад эгідай ЮНЕСКА. Пасол Беларусі ў Францыі, пастаянны прадстаўнік Беларусі пры ЮНЕСКА Павел Латушка падкрэсліў, што гэты юбілей — сімвалічная дата, якая пацвярджае: беларуская культура і асвета маюць глыбокія гістарычныя карані.

✔ Заяўкі на XIII Нацыянальны конкурс друкаваных сродкаў масавай інфармацыі «Залатая Ліцера» прымаюцца да 15 красавіка, паведамілі ў Міністэрстве інфармацыі Беларусі. У конкурсе могуць браць удзел друкаваныя СМІ, а таксама іх асобныя журналісты і творчыя работнікі. Работы папярэдне ацэніць экспертны савет, журы падвядзе вынікі і вызначыць пераможцаў у кожнай намінацыі не пазней за 25 красавіка. Цырымонія ўшанавання пераможцаў пройдзе 5 мая. Арганізатарам конкурсу з'яўляецца Міністэрства інфармацыі Беларусі. Інструкцыя ўдзелу ў XIII Нацыянальным конкурсе друкаваных СМІ «Залатая Ліцера» размешчана на афіцыйным сайце ведамства.

✔ У маі будзе названая культурная сталіца Беларусі 2018 года, паведамілі ў Міністэрстве культуры. Палажэнне аб парадку падрыхтоўкі і правядзення рэспубліканскай акцыі «Культурная сталіца года» апублікавана на афіцыйным сайце ведамства. Рашэнне аб наданні гораду адпаведнага статусу прымае калегія Міністэрства культуры. Асноўныя крытэрыі — наяўнасць развітой сацыяльна-культурнай інфраструктуры горада, станоўчы досвед арганізацыі і правядзення культурных мерапрыемстваў, сістэмнасць работы па даследаванні і зберажэнні матэрыяльнай і нематэрыяльнай гісторыка-культурнай спадчыны, захаванні і развіцці рэгіянальных асаблівасцей, наяўнасць новых культурных праектаў.

# ВЕЦЦЕ ПАМЯЦІ

**Урочышча Курапаты — куток, дзе жывуць людская памяць і гістарычная праўда. Камяні, крыжы, дрэвы… Усё гэта нагадвае пра цяжкія падзеі эпохі сталінскіх рэпрэсій. Менавіта тут, у Курапатах, прайшоў суботнік, арганізаваны Федэрацыяй прафсаюзаў Беларусі.**

Сярод удзельнікаў акцыі па добраўпарадкаванні Курапат — міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў, старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Міхаіл Орда, а таксама супрацоўнікі рэдакцыі «СБ. Беларусь сегодня» і Выдавецкага дома «Звязда».

Рупіліся педагогі, студэнты, прадстаўнікі розных прадпрыемстваў, грамадскага аб'яднання «Белая Русь», Беларускага рэспубліканскага Саюза моладзі. Нягледзячы на кепскае надвор'е, ачышчалі тэрыторыю ўрочышча, прыбіралі бярвёны і сухое вецце. Сюды прыйшлі сотні неабыякавых людзей, незалежна ад перакананняў і веравызнання, бо задача кожнага з нас — захаваць гісторыю, традыцыі і каштоўнасці сваёй краіны. А гісторыя прымушае думаць, аналізаваць, разважаць. У гэтым пераконваешся, калі прыязджаеш у Курапаты.

Міністэрства культуры абвясціла конкурс: да 25 красавіка аўтары і творчыя калектывы могуць прапанаваць уласную канцэпцыю мемарыяла памяці і смутку ў Курапатах. Збор сродкаў на яго будаўніцтва ўжо распачаты: адкрыты рахункі ў беларускіх рублях і ў валюце, распавёў міністр культуры Барыс Святлоў. Справа гэтая ўсенародная, Курапаты павінны стаць агульнанацыянальным мемарыялам, таму ніхто не павінен застацца ўбаку.

— Ствараецца прафесійнае журы конкурсу, але канчатковае слова будзе за грамадзянамі нашай краіны, якія выберуць найбольш варты праект, — падкрэсліў Барыс Уладзіміравіч.

Базавай пляцоўкай конкурсу стане Цэнтр сучасных мастацтваў. А што да агульнай канцэпцыі будучага мемарыяла, то, на думку міністра, галоўнае — ідэя, якая павінна быць данесена скульптарам, архітэктарам, групай творчых асоб, каб сапраўды абазначыць урочышча як месца «пакутнага дваццатага стагоддзя». На стварэнне мемарыяла памяці і смутку ў Курапатах плануецца накіроўваць і сродкі Міністэрства культуры.


Фота БелТА.
*На суботніку ў Курапатах.*

— Для кожнага, хто прыйшоў сюды сёння, вялікі гонар разам са сваімі аднадумцамі ўшанаваць памяць бязвінна загінуўшых у тыя цяжкія для краіны гады, — зазначыў дырэктар — галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Павел Сухарукаў.

Курапаты — гэта трагічны ўрок для грамадства. Урок, які неабходна ведаць, каб разумець, наколькі важна сёння захаваць мір у краіне. А захаваць яго цалкам рэальна, калі ёсць памяць, вера і сумленне.

**Яна ЯВІЧ**

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# Маладыя адкрыцці

**Адзін з вектараў дзейнасці Саюза пісьменнікаў Беларусі — праца з маладымі літаратарамі. Мінскае гарадское аддзяленне СПБ менавіта для іх заснавала літаратурную прэмію «Адкрыццё», лаўрэатаў якой віталі ў сталічнай публічнай бібліятэцы № 5.**

— Ужо чацвёрты год запар гэтая прэмія ўручаецца найбольш таленавітым аўтарам ва ўзросце да трыццаці гадоў, якія сталі сапраўдным адкрыццём мінулага года. Яе лаўрэатамі ўжо сталі паэтэсы, сябры СПБ Людміла Клачко і Таццяна Купрыянец, — распавёў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў.

А сёлета прэмію атрымалі яшчэ дзве паэтэсы: Кацярына Роўда (за кнігу «Водар белага наліву») і Кацярына Стройлава (за кнігу «Цярністы шлях»). Першая ўжо з'яўляецца сябрам СПБ, другая пакуль што кандыдат у члены СПБ: творы абедзвюх прасякнуты глыбокай духоўнасцю і цеплынёй.

Вершы Кацярыны Роўда, Кацярыны Стройлавай і Таццяны Купрыянец прадэкламавала артыстка эстрады Вольга Багушынска. А Таццяна Купрыянец падрыхтавала яшчэ і музычна-паэтычны падарунак. Паэтэс павіншавалі і ўдзельнікі літаб'яднання БДУ «КЛУмБа», сябрамі якога яны з'яўляюцца, на чале з кіраўніком Ірынай Шкіронак.

«Жытнёвая, льняная, васільковая, / Бы ягадка суніцы, сакавітая…» Гэта — радкі з верша Кацярыны Роўда «Мова». Вось яно, наша нацыянальнае багацце вачыма маладога аўтара! Не саступае і Кацярына Стройлава. «Я видела во сне тернистую дорогу, / А где-то высоко далёкий, нежный свет…» — адкуль гэта, калі не ад боскага, духоўнага?

І такіх пранікнёных радкоў у творчасці лаўрэатаў «Адкрыцця» — мноства.

**Яна ЯВІЧ**

**Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:**

**31 сакавіка** — *на літаратурна-музычную вечарыну, прымеркаваную да Дня яднання народаў Беларусі і Расіі. Імпрэза з удзелам пісьменнікаў ладзіцца Міжнародным грамадскім аб'яднаннем «Гаро» і адбудзецца ў Цэнтры нацыянальных культур (вул. Чычэрына, 19). Пачатак у 18.30.*

**2 красавіка** — *у Школу юнага празаіка пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-310). Пачатак у 14.30.*

**2 красавіка** — *на канцэрт духоўнай паэзіі і аўтарскай песні «У чаканні Светлага дня» з удзелам паэтаў ды акцёраў тэатра і кіно ў Палац мастацтва. Пачатак а 14-й гадзіне.*

**3 красавіка** — *на ўрачыстую цырымонію падвядзення вынікаў V конкурсу літаратурнай творчасці «Славянскі калейдаскоп-2017» сярод студэнтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта ў Дом Масквы. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**4 красавіка** — *на юбілейную творчую імпрэзу пісьменніка і мастака Сяргея Волкава ў Дом літаратара. Пачатак а 16-й гадзіне.*

**4 красавіка** — *у літаратурны клуб «Аўтограф» пры інтэрнаце № 8 Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта на творчы вечар пісьменніка Юрася Нератка. Пачатак а 18-й гадзіне.*

**5 красавіка** — *на Мінскае гарадское літаратурна-музычнае свята гумару «Смяяцца не грэх» з удзелам пісьменнікаў-гумарыстаў у публічную бібліятэку № 7 імя Якуба Коласа. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**6 красавіка** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак у 14.30.*

**7 красавіка** — *на творчую сустрэчу юных чытачоў з пісьменнікам Міхасём Пазняковым у мінскую гімназію № 74. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**6 красавіка** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Ірынай Карнаухавай у Барысаўскую цэнтральную раённую бібліятэку імя І. Х. Каладзеева. Пачатак а 13-й гадзіне.*

**Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**3 красавіка** — *на сустрэчу з дзіцячымі пісьменнікамі Галінай і Сяргеем Трафімавым «Тайное и загадочное в мире природы» і ў сярэднюю школу № 3 г. Оршы. Пачатак у 12.30.*

**4 красавіка** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Тамарай Красновай-Гусачэнка «Вот стихи мои откуда» ў Віцебскую гарадскую бібліятэку імя Л. Талстога. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**4 красавіка** — *на творчыя сустрэчы з дзіцячымі пісьменнікамі Галінай і Сяргеем Трафімавымі ў сярэднюю школу № 11 г. Віцебска. Пачатак аб 11-й гадзіне і а 13-й гадзіне.*

**6 красавіка** — *на літаратурную сустрэчу з дзіцячымі пісьменнікамі Галінай і Сяргеем Трафімавымі «Час полезных советов» у Аршанскую бібліятэку імя У. Корбана. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**6 красавіка** — *на літаратурную сустрэчу з дзіцячымі пісьменнікамі Галінай і Сяргеем Трафімавымі «У краіне 1000 чаму» ў Аршанскую бібліятэку імя Н. К. Крупскай. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**7 красавіка** — *на тэатралізаванае прадстаўленне па творах дзіцячых пісьменнікаў Галіны і Сяргея Трафімавых «Як Бабуся-Ягуся адкрывала "Акадэмію ліпавых навук"» у Аршанскую дзіцячую бібліятэку імя У. Караткевіча. Пачатак а 12-й гадзіне.*

**Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:**

**4 красавіка** — *у школу паэтычнага майстэрства з удзелам брэсцкіх літаратараў у клуб «Літара» Брэсцкага гарадскога цэнтра культуры. Пачатак а 17-й гадзіне.*

**8 красавіка** — *на сустрэчу з удзельнікамі лунінецкага творчага клуба «Муза» ў Лунінецкую дзіцячую бібліятэку імя Пушкіна. Пачатак а 12-й гадзіне.*

Літсувязі

# Творчае акно ў Калінінград

**Старшыню Калінінградскага рэгіянальнага аддзялення Саюза пісьменнікаў Расіі Барыса Бартфельда ведаюць многія айчынныя літаратары. Падчас нядаўняга прыезду ў Мінск Барыс Нухімавіч сустрэўся з беларускімі калегамі па пяры ў Доме літаратара і ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа.**

На сустрэчы ў Доме літаратара Барыс Бартфельд распавёў, што ў Калінінградзе дзейнічае спецыяльная абласная выдавецкая праграма, у межах якой выдаецца 12 кніг на год, у тым ліку дзіцячая літаратура. І гэта пры тым, што калінінградская пісьменніцкая арганізацыя налічвае ўсяго некалькі дзясяткаў творцаў! Адборам твораў займаецца конкурсная камісія. У яе рамках выдаюцца кнігі і замежных аўтараў, чыя творчасць звязана з Калінінградам і Калінінградскай вобласцю.

Дзяржавай фінансуюцца два літаратурна-мастацкія часопісы: «Балтика» (для дарослых) і «Мурр+» (дзіцячы). Пісьменнікам прысуджаюцца прэмія губернатара Калінінградскай вобласці, гарадская літаратурная прэмія «Вдохновение» і прэмія «Патриот земли Российской» імя вялікага князя Аляксандра Неўскага.

У Коласавым доме Барыс Бартфельд чытаў свае вершы. Дырэктар музея Зінаіда Камароўская падкрэсліла, што сустрэча з Барысам Бартфельдам — пачатак новага міжнароднага праекта «Літаратурны глобус», прымеркаванага да 135-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа. У межах праекта сваю творчасць будуць прадстаўляць замежныя літаратары.

Паэзія Барыса Бартфельда — сапраўдная энцыклапедыя рускага слова: у яго творчым багажы — радкі пра паэзію, творчасць, сяброўства. «О, Слово ловчее, человечье. Оловом горло обволокло…» Ці яшчэ: «Меня аист принёс в аистиную эту страну, / Где весёлые люди, / Вернувшись со страшной войны, / Под гармошку плясали, пахали и жили…» Адным словам, майстэрства творцы-рэаліста! Творы паэта ў сваім перакладзе на беларускую мову публіцы прадставіла паэтэса, галоўны спецыяліст Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Іна Фралова.

**Яна ЯВІЧ**

## ЛіМ-каляндар

**27 сакавіка** — 85 гадоў з дня нараджэння Станіслава Дзьяканава (1932 — 2002), беларускага жывапісца.

**27 сакавіка** — 75 гадоў з дня нараджэння Валерыя Дурава (1942 — 2003), беларускага графіка.

**28 сакавіка** 75 гадоў адзначыў Леў Талбузін, беларускі майстар дэкаратыўна-ўжытковага і медальернага мастацтва.

**28 сакавіка** 75-годдзе адсвяткавала Аліна Фаміна, беларускі мастак тэатральных лялек, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР.

**29 сакавіка** — 85 гадоў з дня нараджэння Барыса Уторава (1932 — 2006), беларускага рэжысёра, педагога.

**29 сакавіка** 70 гадоў споўнілася Антаніне Лапіцкай, беларускаму графіку.

**29 сакавіка** 70-гадовы юбілей адсвяткаваў Аляксандр Мартынаў, беларускі артыст балета, педагог, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь.

**31 сакавіка** 60-годдзе адзначае Жанна Чыстая, беларускі жывапісец.

**125 гадоў** таму нарадзілася Софія Зянько-Пачыкоўская (1892 — 1977), беларуская народная спявачка і казачніца.

**100 гадоў** таму нарадзіўся Уладзімір Кандраценя (1917 — 1943), беларускі празаік.

**1 красавіка** — 80 гадоў з дня нараджэння Юрыя Дубровіна (1937 — 1983), беларускага кінаакцёра, кінарэжысёра, сцэнарыста.

**1 красавіка** — 80 гадоў з дня нараджэння Аляксея Шныпаркова (1937 — 2007), беларускага мастацтвазнаўца.

**1 красавіка** 70 гадоў спаўняецца Алесю Жуку, беларускаму празаіку.

**2 красавіка** 80-годдзе адзначае Святлана Вуячыч, народная артыстка БССР.

Памятаем

# МЭТР СУРОВАГА СТЫЛЮ

**«Я навек заручаны з мастацтвам…» — словы народнага мастака Беларусі Мая Данцыга. Мастацтвазнаўцы адзначалі, што, незалежна ад таго узросту, калі Данцыг пісаў сваю карціну, яго палотны выглядалі эмацыянальна, жыццесцвярджальна, а галоўнае — молада. Гэтая захаваная ў творах маладосць датычыла і самога Данцыга.**

Па прызнанні мастака, ён заўсёды любіў маляваць. Адзначаў, што справа ў генах: яго бацьку таксама падабаўся гэты занятак. Сям'я жыла ў старым доме — з тоўстымі сценамі, скляпеністымі вокнамі. Але гэта быў сапраўдны рай для будучага мастака. Ён размалёўваў свабодныя сцены, калі заставаўся адзін, каб ніхто не парушаў яго натхнёны стан. І з такім узнёслым настроем працаваў заўжды, бо мастацтва было для Мая Вольфавіча прызваннем, нават апантанасцю, як трапна зазначыў сам творца.

Работы Мая Данцыга выстаўляліся ў Вялікабрытаніі, Венгрыі, Германіі, Індыі, Італіі, Канадзе, і гэта не поўны спіс краін. Многія яго карціны зараз захоўваюцца ў Дзяржаўнай Траццякоўскай галерэі ў Маскве, музейных калекцыях у Расіі, Галандыі, Германіі, Бельгіі, Італіі, ЗША і, канечне, беларускім Нацыянальным мастацкім музеі і музеі Вялікай Айчыннай вайны. Дарэчы, вайна для Данцыга была асобнай старонкай жыцця і творчасці: падчас вайны Маю дапамагала мастацтва, так мастак выжываў. А потым ужо сам Данцыг дапамог мастацтву: адлюстраваў перажытае падчас вайны ў карцінах «Беларусь — маці партызанская», «На варце свету»…

Мая Вольфавіча называлі мэтрам суровага стылю: ён прысвячаў палотны сацыяльна важным тэмам, займаўся станковым і манументальным жывапісам. Значная частка творчасці звязвала Данцыга з роднай краінай: ён пісаў партрэты вядомых суайчыннікаў (Быкава, Адамовіча), прысвяціў шэраг твораў любімаму Мінску (карціна «Мой горад старажытны, малады» стала яго візіткай), казаў, што мастак павінен заставацца побач са сваімі каранямі.


Фота Кастуся Дробава.

Май Данцыг.

Данцыг ніколі не любіў рабіць эскізы — не хацеў растрачваць эмоцыі на замалёўкі, бо нават задума, па яго меркаванні, можа быць эскізам. Рабіць тое, што любіш, і расстаўляць прыярытэты было асноўнымі правіламі мастака. З іх і нараджаліся шэдэўры — маладыя, дзіўныя, запамінальныя... Як і сам мастак.

## Дайджэст

• Нацыянальны гістарычны музей Рэспублікі Беларусь запусціў бестэрміновую акцыю «Адзіны квіток». Цяпер можна наведаць сем музеяў Мінска, набыўшы ўсяго адзін квіток у любым з іх. Ахвотныя змогуць пазнаёміцца з экспазіцыямі і выстаўкамі (за выключэннем камерцыйных) Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь, Музея прыроды і экалогіі, Дома-музея I з'езда РСДРП, Музея сучаснай беларускай дзяржаўнасці, Музея гісторыі беларускага кіно, Музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры, а таксама — Гасцёўні Уладзіслава Галубка. Адзіны квіток дзейнічае на працягу двух тыдняў з моманту набыцця. На самім квітку змешчаная ўся неабходная інфармацыя з адрасамі, тэлефонамі і графікамі працы музеяў.

• Збор твораў Мікалая Улашчыка прэзентаваны ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Мікалай Улашчык — гісторык, археограф, крыніцазнаўца, перакладчык і пісьменнік. Аўтар навуковых работ па гісторыі Беларусі часоў ВКЛ, па праблемах летапісання, крыніцазнаўства ды археаграфіі. Яго навуковая спадчына налічвае чатыры манаграфіі і яшчэ адну няскончаную, мемуары, гісторыка-этнаграфічны нарыс пра родную вёску, шматлікія артыкулы і рэцэнзіі — усяго каля трох тысяч старонак тэксту. Падрыхтоўка да выпуску збору твораў М. Улашчыка вялася шмат гадоў. На пачатку 2017-га ў выдавецтве «Інбелкульт» пабачыў свет першы том. У яго ўвайшлі манаграфіі «Нарысы па археаграфіі і крыніцазнаўству гісторыі Беларусі феадальнага перыяду» і «Уводзіны ў вывучэнне беларуска-літоўскага летапісання», артыкулы, рэцэнзіі і прадмовы да публікацый на адпаведную тэматыку, а таксама пасмяротныя выданні, якія планаваліся як працяг распачатай тэматычнай серыі. Большасць твораў М. Улашчыка ў арыгінале напісаныя па-руску, частка — па-беларуску і некалькі — па-польску. Выданне збору твораў па-беларуску сімвалічна вяртае спадчыну гісторыка на Радзіму і робіць яе даступнай шырокаму чытачу.

• Праграміст Дыяніс Брэк стварыў мабільны дадатак з вершамі Якуба Коласа. Праграміст кажа, што з дзяцінства захапляўся вершамі: у яго сям'і іх часта чыталі па памяці і нават пісалі. «У будынку, дзе я зараз працую распрацоўшчыкам мабільных праграм, ёсць кавярня. Некалькі дзён запар я хадзіў туды, браў каву і чытаў знойдзеныя там зборнікі вершаў ва ўтульным крэсле. Менавіта там я вырашыў зрабіць нейкі дадатак, каб іншыя людзі таксама маглі захапляцца паэзіяй у любым месцы», — распавёў Брэк. Над дадаткам ён працаваў некалькі вечароў. Больш часу пайшло на збор і афармленне тэкстаў. У фінальны варыянт дадатку ўвайшло 188 вершаў. Зараз «Якуба Коласа» можна спампаваць у *iTunes*, хутка з'явіцца варыянт для карыстальнікаў мабільных тэлефонаў на платформе *Android*. Акрамя таго, зыходны код стваральнік пакінуў у адкрытым доступе, таму стварыць нешта падобнае можа любы ахвотны.

• Бясплатныя экскурсіі па Беларусі пройдуць 22 і 23 красавіка падчас «Фэсту экскурсаводаў-2017». Спіс экскурсій будзе апублікаваны за тыдзень да мерапрыемства. Традыцыйна арганізатары прысвячаюць фестываль канкрэтнай нагодзе або асобным катэгорыям помнікаў. Цяперашняе мерапрыемства пройдзе пад дэвізам «Складзі свой маршрут». Арганізатары заклікаюць ахвотных скласці ў найбліжэйшы час цікавыя маршруты для сваіх падарожжаў і здзейсніць іх. Са свайго боку арганізатары прапануюць незвычайныя аб'екты, якія могуць увайсці ў гэты пералік. «Фэст экскурсаводаў» ладзіцца ў Беларусі з 2009 года. Ён прысвечаны Міжнароднаму дню помнікаў і гістарычных месцаў (Дзень сусветнай спадчыны), які адзначаецца 18 красавіка. Летась было арганізавана больш за 100 экскурсій па Мінску і больш за 80 у рэгіёнах, якія наведала звыш 4 тысяч чалавек.

**Дарагі Алесь Мікалаевіч Бадак!**

Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае Вам, Вашай дачушцы і ўсім Вашым родным шчырыя, глыбокія спачуванні з прычыны неверагоднага гора — раптоўнай, заўчаснай, да крыўднага недарэчнай смерці любай ЖОНКІ і МАЦІ Жанны Арсеньеўны.

Балюча суперажываем разам з Вамі. Дай Бог Вам і сям'і стойка вытрымаць гэтую вялікую страту. Мы — разам.

Калектыў рэдакцыі часопіса «Полымя» выказвае шчырае спачуванне дырэктару выдавецтва «Мастацкая літаратура» Алесю Мікалаевічу Бадаку ў сувязі з трагічнай смерцю ЖОНКІ.

Віцебскае абласное аддзяленне СПБ выказвае шчырыя спачуванні пісьменніку, дырэктару выдавецтва «Мастацкая літаратура» Аляксандру Мікалаевічу Бадаку ў сувязі са смерцю ЖОНКІ.

Гомельскае абласное аддзяленне СПБ выказвае глыбокія спачуванні пісьменніку, дырэктару выдавецтва «Мастацкая літаратура» Аляксандру Мікалаевічу Бадаку з прычыны вялікага гора — трагічнай гібелі ЖОНКІ.

# Скарына. Пункт

**Паўтысячы гадоў жыве беларуская друкаваная кніга. Гэтую дату ўжо адзначылі некалькі выданняў, прысвечаных Францыску Скарыну ды кнігадрукаванню. Вядома, чакаюцца й іншыя. Між тым ужо цяпер можна сцвярджаць: падводзячы рысу пад юбілейным годам друку, на адно з першых месцаў мы вылучым кнігу «Маем найбольшае самі», у якой Алесь Разанаў перастварыў арыгінальныя тэксты Скарыны ў паэтычную асучасненую форму.**
**Зрэшты, перастварэнне збольшага адбывалася якраз з мовы даўніны на мову сучаснага беларуса. Што да паэтычнага складніка, ён меўся ў тэкстах Скарыны заўжды. Адно што трэба было заўважыць гэтую паэзію, адкрыць, што і зрабіў Алесь Разанаў.**
**Такое перастварэнне — нагода задацца пытаннем: ці можа быць Скарына жывы сёння? Як з культурнага знака зрабіць яго чалавекам, зразумелым сённяшнім людзям? Якім чынам раскрыць для шырокага кола чытачоў яго паэзію, яго духоўны здабытак, што дапаможа нам ісці ў дзень заўтрашні?..**

*Пра ўсё тое разважаў сам Алесь Разанаў падчас круглага стала, што сабраўся ў рэдакцыі газеты «Літаратура і мастацтва». Абмеркаванне з'яднала людзей, якія так ці іначай спрычыніліся да стварэння сучаснага вобраза Скарыны, яго вяртання беларусам. Культуролаг і кнігазнаўца Алесь Суша даследуе і актыўна папулярызуе спадчыну Францыска Скарыны. Алесь Бразгуноў — літаратуразнаўца-медыявіст, які ўжо чацвёрты год працуе з літаратурнай спадчынай Скарыны, складаючы поўны збор тэкстаў у перакладзе на сучасную беларускую мову. Літаратуразнаўца Іван Саверчанка трымаў слова за навуковую супольнасць Беларусі. Філолаг і крытык Вячаслаў Чамярыцкі — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі за ўдзел у стварэнні цыкла работ «Скарына і беларуская культура», узнагароджаны медалём Францыска Скарыны. Алесь Бадак і Віктар Шніп сталіся прадстаўнікамі выдавецтва «Мастацкая літаратура», у якім пабачыла свет кніга Алеся Разанава «Маем найбольшае самі». Удзельнічалі ў размове і супрацоўнікі рэдакцыі — галоўны рэдактар Ларыса Цімошык, рэдактар аддзела крытыкі Наста Грышчук.*


Алесь Разанаў.


Вячаслаў Чамярыцкі.


Ларыса Цімошык.


Алесь Бадак.

**Ларыса ЦІМОШЫК:** «Маем найбольшае самі» — кніга, якая ўзнікла дзякуючы Скарыну. Алесь Сцяпанавіч, на чым грунтавалася вашае жаданне стварыць паэзію паводле Скарыны?

**Алесь РАЗАНАЎ:** Пачаў чытаць Скарыну — яго прадмовы і пасляслоўі, — і тэксты пачалі адгукацца. У іх нешта было — яно гаварыла, прамаўляла, адгукалася, у іх была паэзія. І нават трошку дзіўна, што нашы шаноўныя літаратуразнаўцы яго прадмовы і пасляслоўі да паэзіі не адносілі, праміналі, можна сказаць. Вылучалі некалькі тэкстаў («Звяры, што блукаюць у пушчы...»), а іншыя заставаліся збоку як бы незаўважанымі. Хаця калі пільна ўчытвацца ў прадмову да «Псалтыра», першай кнігі, з якой Скарына пачынаў выдавецкую дзейнасць, то словы там суадгукаюцца, аб'яўляюцца, нават пяюцца. Вазьміце якінебудзь пасаж з прадмовы да Псалтыра, складзіце гэтыя радкі ў слупок — і выявіцца верш...

У сваёй творчасці я выйшаў за межы сілаба-танічнай сістэмы вершаскладання, знадворнае не засланяла ўнутраны змест, а ўнутраны змест Скарынавых прадмоў паэтычны. Адчуў гэта, заўважыў, захапіўся і недзе ў сярэдзіне 1980-х гадоў пачаў перастварыць іх на сучасную беларускую мову, а прадмову да «Псалтыра» перастварыў нават на рускую: яна друкавалася ў «Нёмане» за 1994 год. Алег Лойка тады напісаў да гэтай публікацыі ўступ, а ў кнізе «Старабеларуская літаратура» ён прысвяціў цэлы раздзел тэме «Скарына як паэт». Скарына прамаўляе да нас з глыбіні стагоддзяў, ён над палітыкай, над эканомікай, над канфесіямі, над распадзеламі на творчыя саюзы, над асабовымі стасункамі. За гэтыя вякі шмат змянілася, шмат адбылося, але таму, што ён сказаў свае слова, мы гаворым з ім, уваходзім з ім у размову.

**Ларыса ЦІМОШЫК:** Кажуць, для паэтычных кніг цяпер час складаны, а тут паэзія з біблейскім ухілам — такое сумяшчэнне... Шаноўныя выдаўцы, была рызыка з выданнем кнігі?

**Алесь БАДАК:** Пяцісотгоддзе беларускага кнігадрукавання — важная культурная падзея, таму такая кніга зойме годнае месца ў айчынным кнігавыданні XXI стагоддзя незалежна ад таго, ці будзе запатрабаваная шырокім чытачом. Але на кніжнай выстаўцы кніга выклікала цікавасць — не ведаю, ці куплялі яе больш спецыялісты, ці аматары паэзіі, ці тыя, хто шануе Скарыну, але выданне разыходзілася. Пра рызыку не думалі, думалі пра іншае. Кніга мае сімвалічную назву. Бяда многіх пакаленняў беларусаў — што мы не заўважаем, што ёсць у нас, што мы і сапраўды маем найбольшае самі. І кніга перастварэнняў — нагода, каб паразмаўляць пра веліч Скарыны. Па яго біяграфіі можна здымаць процьму выдатных фільмаў, Галівуд пазайздросціць!.. Спадзяюся, што гэты юбілейны год абудзіць цікавасць да Скарыны — можа быць, самай знакамітай асобы ва Усходняй Еўропе.

**Віктар ШНІП:** Скарына па-над усім, але Скарына — гэта і палітыка, і эканоміка, і чалавечыя стасункі, і саюз. Сэнс таго, што было і што ёсць цяпер. Алесь Разанаў аб'яднаў стагоддзі, Скарыну таго і цяперашняга, як мы яго разумеем. І калі Алесь Сцяпанавіч працаваў над кнігай, то быў нашым сучасным Скарынам. Зроблена вялікая праца, на якую пайшло шмат часу, — і гэта сапраўдная творчасць. Думаю, што кніга «Маем найбольшае самі» будзе вывучацца ў школе, і па ёй будуць разумець, што Скарына быў паэтам.

**Алесь РАЗАНАЎ:** Спадчына не рэч, аднойчы і назаўсёды набытая. Яна найперш творчасць, у ёй два пачаткі — тое, што здзейснілася некалі, і тое, што дзейсніцца цяпер. І ад таго, што дзейсніцца цяпер, вельмі залежыць, што маем. Мы маем тое, што маем, настолькі, наколькі яго набываем. Спадчына ідзе ўслед за намі, і каб яна дайшла да нас, мусім і самі ісці насустрач ёй — рабіць канкрэтныя крокі, тварыць, укладацца ў мэтаскіраваныя высілкі і намаганні. Не будзе гэтых крокаў — тое, што маем, пачне адасабляцца, аддаляцца, перайначвацца другімі... Сёння ў нас старажытная літаратура яшчэ сама па сабе — проста ёсць у запасе, сучасная літаратура сама па сабе, паміж імі падзел, прамежак, адлегласць. Старажытная літаратура — тое, што не забыта, але і не вернута. І Скарына, можа, — першы крок да гэтага вяртання.

**Іван САВЕРЧАНКА:** Сітуацыю драматызаваць цяпер не варта, яе трэба было драматызаваць значна раней. Калі 30 гадоў таму пачынаў займацца Скарынам, лічылася, што яго кнігі ўжо нікому не патрэбныя, іх трэба з бібліятэк вычысціць, павыкідваць. Скарыну і Ефрасінню Полацкую называлі цемрашаламі... І было некалькі энтузіястаў: Вячаслаў Чамярыцкі, Адам Мальдзіс, перад імі — Віктар Дарашкевіч, якія займаліся скарыназнаўствам, зацвярджалі і адстойвалі тэмы, бралі вучняў... Гэта рабілася вялікімі намаганнямі, з апорай на работы рускіх вучоных — на Дзмітрыя Ліхачова, Аляксандра Панчанку. Так дзякуючы акадэмічным вучоным, універсітэцкім навукоўцам наша старажытная літаратура была адстаяная і актуалізаваная. За гэтыя 30 год сітуацыя ў корані змянілася. Навукоўцаў падтрымлівае дзяржава, падтрымлівае Міністэрства інфармацыі. Зразумела, што тэксты, апублікаваныя Мальдзісам, Чамярыцкім, Аляксандрам Коршунавым, — той грунт, без якога нічога не было б. На машынцы набраць, вычытаць, ад рукі перапісаць — гэта вялікая праца, і гэта трэба шанаваць. Потым далучыліся мастакі, паэты, кінадакументалісты і пачалі супольна рабіць адну справу, кожны ў сваім дыскурсе.

У творчасці Алеся Разанава маем справу з такой з'явай, як інтэртэкстуальнасць, вядомай яшчэ ў Сярэднявеччы. Тады перараблялі антычных аўтараў, цяпер Алесь Разанаў перарабіў Скарыну. Інтэртэкстуальнасць заўсёды вітаецца, бо ўзбагачае літаратуру. І Алесь Разанаў сваім талентам, веданнем мовы, адчуваннем рытму дапоўніў, узбагаціў, пашырыў нашу культурную прастору.

**Алесь СУША:** Сапраўды фенаменальным быў канец 1980-х — пачатак 1990-х гадоў, калі Акадэмія навук, шэраг іншых структур мэтанакіравана працавалі на падрыхтоўку пяцісотгадовага юбілею Скарыны. Працавалі выдатныя навукоўцы, і многае не пераўзыдзена дагэтуль. Потым назіраўся пэўны спад. Пяць год таму заходзіў у кнігарні і мэтанакіравана запытваўся: «Ці ёсць у вас хоць адна кніга пра Скарыну — для дзетак ці дарослых, навуковае даследаванне ці мастацкі твор?» Але нічога не было. Здавалася б, Скарына, асоба першай велічыні, — і пустэча. Магчыма, так адбылося таму, што ў 1990-я гады з'явілася шмат варыянтаў навуковай працы, і ўсе разам кінуліся ў новае. Пасля вялікіх дасягненняў 1980 — 1990-х гадоў трэба было пакласці ці не ўсе жыццё, каб знайсці новы факт у скарыназнаўстве. Пра Скарыну згадвалі, час ад часу ставілі помнікі, але новыя кнігі з'яўляліся рэдка — не толькі навуковыя...

Юбілей, да якога мы падышлі, адкрыў новыя магчымасці, і новы час інакш звярнуўся да гэтай асобы — не праз новыя навуковыя, вельмі глыбокія сістэмныя даследаванні, а больш праз ажыўленне тэматыкі — праз правядзенне конкурсаў, пленэраў... Згадаем конкурс драматычных твораў, конкурс сярод студэнтаў і навучэнцаў, арганізаваны праваслаўнай царквой, мастацкія акцыі і выстаўкі, шалёныя творчыя перастварэнні. Так, на выстаўцы «Скарына і наш час» выява Скарыны была на цішотках і банкаўскіх картках, на паштоўках і марках. З'яўляюцца выданні, дзе Скарына паўстае праз графіку, жывапіс, праз аб'екты масавай культуры. Сённяшні час патрабуе пераасэнсавання, ажыўлення, перачытання у тым ліку паэтычнага, бо паэзія ў радках Скарыны відавочная. Не кажу пра сілабічную паэзію, пра якую пісалі неаднойчы. Кажу пра рытміку яго тэкстаў — заканамерна, што яна выклікае цікавасць даследчыкаў паэзіі, — але вельмі хораша, што з'яўляецца інтэграцыя ў сучасную культурную прастору, уключэнне ў сучасны культурны дыскурс, у наша інтэлектуальнае жыццё. Гэта мае вялікае значэнне і вялікую перспектыву.

**Іван САВЕРЧАНКА:** Вядома, кніга Алеся Разанава будзе больш папулярнай, больш запатрабаванай, чым навуковае даследаванне, якое пішацца не для тыражу і не для масавасці, а каб даць пэўную інфармацыю. Навукоўцы гэтаму вельмі радыя: хай людзі знаёмяцца са Скарынам праз перастварэнні, праз фільмы...

**Ларыса ЦІМОШЫК:** Скарына браўся пісаць, бо меў канкрэтную мэту — несці людзям слова божае, каб гарманізаваць свет. Калі Алесь Сцяпанавіч браўся перастварыць Скарыну для сучаснага грамадства, то якую мэту меў ён — зрабіць Скарыну больш зразумелым?..

**Алесь РАЗАНАЎ:** У розных прадмовах Скарына выяўляе сябе па-рознаму — больш поўна і менш, грунтоўна і як бы спехам, усе гэтыя тэксты звязаныя водгук...

# адліку і вяршыня

А месцы, дзе ён проста пераказвае біблійныя старонкі, а сам пры гэтым як бы адсутнічае, не выяўляюцца, як у прадмове да Кнігі Лічбаў, — там не было з кім гаварыць, не было з кім уваходзіць у размову...

Перш за ўсё мне важны быў Ён, важна было выйсці на яго голас, інтанацыю, рэстаўраваць яго прысутнасць — перадаць і тэкст, і кантэкст. Беручы зерне, я мусіў браць і глебу. Беручы рыбіну з яго рэк, трэба было свае рэкі ствараць. Таму, пераствараючы, я меў дзве мэты, альбо адну двайную: выявіць у яго тэкстах паэтычны пачатак, і выявіць так, каб яго словы дайшлі да людзей, да сучаснікаў.

**Вячаслаў ЧАМЯРЫЦКІ:** Уздым скарыназнаўства — час, калі мы арганізавалі цэлую праграму, прыцягнулі да яе выканання дзясяткі вучоных, у тым ліку за межамі Беларусі: Яўген Неміроўскі, Яраслаў Ісаевіч, Юры Лабынцаў. Далучыліся да справы паэты, пісьменнікі: Алег Лойка, Мікола Арочка і многія іншыя, бо Скарына — такая вышыня, як для армян — Арарат: чым далей адыходзім, тым больш бачым, якая ён вышыня. Ён апярэдзіў свой час, не ўсе сучаснікі яго разумелі, таму Скарына мусіў з'ехаць, скончыў жыццё за мяжой... Скарыназнаўцы зрабілі шмат. Калі ў 1990-я гады ўзнікла праблема, як назваць галоўны праспект сталіцы, то такое імя, як Ленін, было заменена імем Скарыны, і ніякіх праблем... Гэта значыць, што фігура Скарыны была прыўзнята, людзі глыбока зразумелі значнасць гэтай асобы.

Спад цікавасці да Скарыны з боку літаратуразнаўцаў можна тлумачыць па-рознаму. Спецыялістаў па старажытнай літаратуры — адзінкі, а літаратура налічвае тысячу гадоў. Гэта не толькі Скарына, але і дзясяткі асоб, якія пісалі на розных мовах, хай не такой велічыні. У краінах, дзе вялікія літаратурныя традыцыі, дзяржава яшчэ больш падтрымлівае даследчыкаў. Напрыклад, на пачатку 1990-х гадоў у Грузіі быў цэлы навуковы аддзел, які вывучаў паэму «Віцязь у тыгровай скуры». У нас павінны быць асобныя аддзелы скарыназнаўства, купалазнаўства, коласазнаўства.

Рады, што з новым юбілеем мы звяртаемся да Скарыны, пачынаем глыбей яго вывучаць, выдаваць факсіміле, папулярызаваць. Перастварэнне прамоў — важны крок да паглыблення асэнсавання спадчыны Скарыны. Насамрэч і Уладзімір Конан, і я пісалі, што прадмовы да Псалтыра — гэта фактычна паэзія ў прозе, але не толькі чыстая паэзія. Публіцыстыка, крытыка, літаратуразнаўства — там ёсць усё. Скарына — энцыклапедыст, цяжка сказаць, чым ён не займаўся, дзе не сказаў важкае слова. І трэба ганарыцца, што беларусы мелі такога дзеяча.

**Алесь БАДАК:** Ці былі іншыя хвалі цікавасці да дзейнасці Францыска Скарыны ў XX стагоддзі?

**Алесь СУША:** Цікавасць да асобы Скарыны бярэ пачатак з часоў «Нашай Нівы». У газеце друкаваліся артыкулы Сяргея Палуяна, Вацлава Ластоўскага. Першая вялікая хваля цікавасці да Скарыны як у Заходняй, так і ва Усходняй Беларусі прыпадае на 1925 — 1926 гады. Дзякуючы знакаваму святкаванню 440-годдзя Скарыны Інбелкульт ледзь не адразу ператварылі ў Акадэмію навук. Да юбілею ў Інбелкульце было прымеркавана выданне грунтоўнай навуковай работы, у Коўне пабачыла свет кніга Вацлава Ластоўскага «Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі». Прайшоў і конкурс мастацкіх твораў... У 1967 годзе адбыліся знакавыя мерапрыемствы ў Полацку і Мінску — у Акадэміі навук, у філармоніі. Вынікам юбілею можна лічыць адзіны на сёння мастацкі фільм пра першадрукара «Я, Францыск Скарына» з Алегам Янкоўскім у галоўнай ролі.

**Алесь РАЗАНАЎ:** Дзякуй усім навукоўцам, не было б гэтых тэкстаў, калі б не яны. Але мусім ісці далей: Скарына стукаецца ў наступнасць. У сваім часе ён нёс асвету. Наш час таксама патрабуе асветніцтва. Нам уяўляецца, што мы на хвалі прагрэсу, але амаль страчаны нейкія базісныя асновы. Час, люд, край маюць патрэбу ў асветніцтве, у самых асноўных ісцінах, якія Скарыну і сучаснікам, магчыма, былі больш зразумелыя, чым нам.

Ёсць законы фізічныя і надфізічныя, а чалавек — не толькі цела, а яшчэ нешта, што не менш істотна за само цела, — душа, дух і нават сам Бог. Адсюль у тэкстах і націск на боскі пачатак, на прынцып пераадольвання цялесных памкненняў і абмежаванняў. Ведаць, разумець — гэта мала, трэба, каб веда пераходзіла ў веру. Веда і вера блізкія, але ў веры свеціцца наступнасць. Наступнасць — гэта выйсце з сябе. Ведаў недастаткова, патрэбна нешта яшчэ, каб увайсці ў наступнасць, і Скарына гаворыць пра гэта неабходныя словы — мякка, разважна, далікатна, як настаўнік. Пераказвае вядомае альбо пачутае, зведанае, прачытанае — але робіць гэта на новым узроўні, мае адметную інтанацыю. Справа асветніцтва мусіць доўжыцца, набываць новае аблічча і новыя выяўленні. Скарына падыходзіў да боскіх ісцін — і цяпер мы падыходзім да Скарыны.

**Іван САВЕРЧАНКА:** Насамрэч Скарына не толькі пераказваў вядомае. Ён абсалютны наватар у многіх праблемах, якія ўздымаў. Так, у прадмовах Францыска Скарыны ёсць вельмі сур'ёзныя разважанні аб праве. У нас у той час ужо працавала камісія па падрыхтоўцы Статута 1529 года, і Францыск Скарына, відаць, быў да гэтага далучаны. Сёння да нас прыязджаюць амерыканцы, кажуць, што павінна быць прававая дзяржава, а Скарына яшчэ ў пачатку XVI стагоддзя разважаў пра важнасць права, казаў пра неабходнасць удасканалення судовай сістэмы. Так і многія іншыя яго ідэі ў сферах філасофіі, этыкі, педагогікі дагэтуль актуальныя, дагэтуль працуюць на асвету і культуру. І, безумоўна, Скарына — пачынальнік нацыянальнай паэзіі: згадаем яго «Акафист чесному и въсехвалному пророку Предтечи и Крестителю Господню Иоанну».

**Алесь СУША:** Даследаванні Скарыны ішлі пераважна з боку асобных навук. Цэласнае ўспрыманне Скарыны, не разабранага па навуках, а сабранага разам, сёння магчымае дзякуючы перастварэнням і перакладам. Нацыянальная бібліятэка ладзіць праект па факсімільным узнаўленні Бібліі Скарыны, прычым у выданнях змяшчаюцца даслоўныя пераклады тэкстаў Скарыны на сучасную беларускую, рускую, англійскую мовы. Калі мы звярнуліся да Акадэміі навук з просьбай зрабіць дакладны, добры, прыгожы пераклад, нам прапанавалі працаваць з Алесем Бразгуновым. У выніку, як і ў выпадку з Алесем Разанавым, мы атрымалі пераклад пачуцця. Перастварэнні захоўваюць дух Скарыны, узнаўляюць яго ў зразумелай нам сёння форме, але захоўваюць рытміку арыгінальных тэкстаў, якая добра кладзецца на сучаснае беларускае слова.

**Наста ГРЫШЧУК:** А якая мэта ўсяе гэтай дзейнасці? Для каго ўсё робіцца, калі сапраўды ведаюць Скарыну сотні, няхай тысячы беларусаў, а астатнім мільёнам — ім усё роўна?..

**Алесь СУША:** Я папулярызатар, не навуковец. Пытанне мне блізкае: дзеля чаго гэта рабіць. Ужо гучала думка, што беларусы мусілі б больш любіць і цаніць сваё. І сёння беларусы ці не ўпершыню за сваю гісторыю, за некалькі апошніх стагоддзяў пачалі ставіць сябе ў цэнтр свайго дыскурсу, парадыгмы, у якой жывуць, ад сябе рабіць адлік. У свой час мы не былі перыферыяй Еўропы, ускраінай Расійскай імперыі, усходнімі крэсамі Польшчы — мы такія, якія ёсць, і ў той час, калі ў Італіі працаваў Леанарда да Вінчы, у Расіі — Андрэй Рублёў, мы былі такімі. Гэтае ўсведамленне пачынаецца ад разумення таго, што мы нечага вартыя, у нас ёсць знакавая спадчына, вартая ўвагі. 50 год таму пра Скарыну ведалі адзінкі, яго не вывучалі ў школе. Гэтая тэндэнцыя змянілася: сёння ўсе ў Беларусі прынамсі чулі гэтае імя. Праз розныя культурныя ініцыятывы варта пра гэтае імя нагадваць. Але як гэта рабіць? Сапраўды, згодны, манатоннасць дабівае. А не дабівае шматгранасць, інаватыўнасць у плане падачы гэтай персоны і гэтай спадчыны. Праз творчыя перастварэнні, праз мастацкія фільмы (сёння паралельна ідзе праца над трыма мастацкімі фільмамі) мы павінны мець свае брэнды. Скарына павінны быць розны — у кіно, у перакладах, і кожны там нешта знойдзе. Але тое, што робяць навукоўцы, — аснова, з гэтага растуць новыя ідэі.

**Наста ГРЫШЧУК:** Аснова ўсё больш грунтоўная, але парасткаў вельмі мала...

**Алесь СУША:** Ёсць розныя праекты, створаныя з мэтай папулярызацыі дзейнасці Францыска Скарыны. Напрыклад, мы зрабілі суполку ў сацсетках «Францыск Скарына і пяцісотгоддзе беларускага кнігадрукавання». На яе падпісаныя і намеснікі міністраў, і школьнікі, і вяскоўцы. Самыя розныя людзі ўдзельнічаюць у дыскусіях і далучаюцца да абмеркавання новых тэкстаў. У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі ствараецца лічбавая бібліятэка, каб кожны, дзе б ні жыў, мог атрымаць доступ да арыгінальных Скарынавых кніг і матэрыялаў па тэме.

**Алесь БРАЗГУНОЎ:** Усё нармальна з вобразам Скарыны. Вядома, ён яшчэ будзе фарміравацца, якім чынам — залежыць ад людзей, што сёння сабраліся за гэтым сталом. Таму хачу яшчэ раз падкрэсліць значнасць Скарынавай працы: на Бібліі заснавана культура кожнай еўрапейскай нацыі, і ў часы Скарыны пераклад Бібліі быў прыкметай спеласці нацыі. Скарына ў гэтым плане сучасны, і яго спадчыны хопіць на многія стагоддзі работы. Будучыня скарыназнаўства — гэта тэксталогія, параўнанне з крыніцамі, якімі Скарына карыстаўся, калі перакладаў Біблію.

Я перадрукаваў Скарынавы тэксты, разбіў на вершы, выявіў памылкі, параўнаў з крыніцамі. І адзначу, што пераклад Бібліі патрабуе філалагічнага даследавання: там вельмі шмат нечаканага, таго, што не спадзяёмся знайсці. Мне здаецца, Скарына ставіўся да Бібліі не з піетэтам, а з павагай. Ён разумеў, што крыніцы, якімі ён карыстаецца, недасканалыя, таму браў кавалкі з розных крыніц і стараўся падаць чытачам як мага больш поўны тэкст. Таму часам Скарына падае адзін і той жа верш з Вульгаты і царкоўнаславянскай Бібліі і змяшчае гэтыя вершы побач. Часам у прадмове цытуе кавалак з кнігі, а ў самім перакладзе змешчаны іншы тэкст. Ёсць у Скарынавых перакладах некалькі кавалкаў, якія не сустракаюцца ні ў царкоўнаславянскай біблії, ні ў Вульгаце. Ёсць падмена на больш зразумелыя паняцці: словы «пардус» ці «барс» Скарына замяняе на «вала», бо яго пераклад быў скіраваны да простага чалавека. Адпаведна, і ў сінтаксічным плане ён выкарыстоўваў вельмі прымітыўныя канструкцыі. Не таму, што не хапала адукацыі, а таму, што хацеў пісаць складаныя рэчы простай мовай. Каб пераказаць Скарыну сучаснай мовай, трэба трапіць у гэту хвалю, быць дакладным і простым. Чалавек складаны, але толькі простым шляхам можна да яго дайсці.

Я працую са Скарынам чацвёрты год і, здаецца, выйшаў на тую ж хвалю, што Алесь Разанаў. Хто сказаў, што паэзія — рыфма? Гамер пісаў без рыфмы. Паэзія — філасофія, светабачанне, пункт адліку, рытміка, мелодыка, адчуванне сябе ў свеце і свету ў сабе, макракосм і мікракосм адначасова. Скарына гэта адчуваў і пісаў у прадмовах менавіта так.

**Алесь РАЗАНАЎ:** Так, вера без спраў мёртвая. Маем быць творцамі, маем здзяйсняць, бо тое, што маем, хоча і мусіць здзяйсняцца. Мы жывём у пераломным часе і маем патрэбу ў вяршынях, куды скіроўваць душою, бо калі не зможам узняцца, то і не выканаем нейкай сваёй ролі, дзеля якой пакліканы ў гэты свет. Наступнасць прад'яўляе неймаверна-імаверныя выклікі, а ў спадчыне захоўваюцца і арыенціры, і вышыні, і моцы, якія могуць стацца нашымі, калі іх прымем, а калі не прымем, можам апынуцца безабароннымі...

Кніга «Маем найбольшае самі» кладзецца на раздарожжа, нехта не заўважыць яе, нехта заўважыць, але пройдзе міма, а нехта знойдзе і разгорне.

**Падрыхтавала Алеся ЛАПІЦКАЯ**


Іван Саверчанка.


Алесь Бразгуноў.


Віктар Шніп.


Алесь Суша.

Фота Кастуся Дробава.

# «Музей» у Палацы

**Гэтымі днямі ў Палацы Незалежнасці адбылася новая, прыемна чаканая падзея: у сценах, якія звычайна прымаюць высокапастаўленых асоб з усяго свету, адкрылася персанальная выстаўка айчыннага мастака. Вядомы беларускі пейзажыст Валерый Шкаруба прадставіў калегам пятнаццаць сваіх работ, якія арганічна ўпісаліся ў інтэр'ер будынка.**

Валерый Шкаруба прадстаўляе сваю работу.

— Калі пазванілі і сказалі, што ёсць прапанова зладзіць выстаўку ў Палацы Незалежнасці, я нават не зразумеў адразу, дзе гэта, але дакладна пачуў: «Незалежнасці», — дзеліцца ўражаннямі заслужаны дзеяч мастацтваў, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь Валерый Шкаруба. — Для мяне гэта ключавое слова. Што можа быць лепшым! Таму быў дужа рады, калі ўцяміў, дзе збіраюцца арганізаваць выстаўку.

На думку мастака, пейзаж быў, ёсць і будзе — у адрозненне ад будынкаў і людзей. Менавіта таму мастак зрабіў гэты жанр ключавым у сваёй творчасці. Астатнія работы Валерыя Шкарубы знаходзяцца ў Барысаве, у персанальнай карціннай галерэі, адкрытай для наведвальнікаў.



Фота БелТА.

Падчас адкрыцця выстаўкі.

На думку старшыні Беларускага саюза мастакоў Рыгора Сітніцы, Валерый Шкаруба — гэта мастак, які стварыў сябе сам. Сам прыдумаў аўтарскі краявід, які пазнаецца здалёк і не патрабуе подпісу. Краявід вельмі адметны, які шмат у чым зламаў стэрэатыпы традыцыйных пейзажыстаў. «У яго пісьмо не 'зусім жывапіснае. Але гэта ні ў якім разе не мінус, а яго ўнікальная адметнасць. Інакш мастак мог бы згінуць як творца сярод яму падобных», — дзеліцца ўражаннямі Рыгор Сямёнавіч.

Уладзімір Пракапцоў, генеральны дырэктар Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі, прапаноўвае скласці графік ці план, хто будзе выстаўляцца ў Палацы наступным, чаргаваць масцітых творцаў і пачаткоўцаў. «Тут можа быць не толькі жывапіс, але і батык, і габелены, і скульптуры, і кераміка. Зала гэта дазваляе зрабіць. Гэта, па сутнасці, атрымліваецца музей у Палацы», — падсумоўвае ён.

**Вераніка ПУСТАВІТ**

# ПАМЯЦЬ ЯК НАТХНЕННЕ

Наколькі паспяхова Міхась Пазнякоў выступае ў жанры прозы, засведчыла яго новая кніга «И нет ничего дороже…», што папоўніла «Бібліятэку Мінскага гарадскога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі». У гэты зборнік увайшлі творы, з якімі многія чытачы знаёмыя ў арыгінале, а пісаліся яны па-беларуску. Пераўвасабленне іх па-руску мае на мэце пашыранне чытацкай аўдыторыі.




Калі казаць коратка, то проза М. Пазнякова — традыцыйная, а тэмы, якія ён асэнсоўвае, — звыклыя для тых, хто ўважліва сочыць за кніжнымі навінкамі. Гэта звяртанне да падзей Вялікай Айчыннай вайны, асэнсаванне пэўных з'яў сучаснасці. Адметна і тое, што на ўсё гэта глядзіць прадстаўнік пасляваеннага пакалення. Найбольш уражвае аповесць «Выход всегда есть…», што мае дакументальную аснову. Гэта расповед пра кароткае, але гераічнае жыццё аднаго з тых, хто, не задумваючыся, стаў на абарону Радзімы. Дарэчы, галоўны герой аповесці капітан Васіль Зыкаў быў родным братам маці М. Пазнякова. Прафесійны ваенны, вайну сустрэў лётчыкам. Толькі граміць захопнікаў давялося нядоўга. Калі тройка бамбардзіроўшчыкаў на чале з Зыкавым, выконваючы чарговае баявое заданне, бамбіла танкавую калону гітлераўцаў у раёне горада Беразіно, іх падбілі варожыя знішчальнікі. Таварышы Зыкава загінулі, а яму ўдалося спусціцца на парашуце, хоць і быў паранены ў правую нагу.

З гэтага моманту пачалася для капітана Зыкава нядоўгая, аднак такая пакутная, часам на мяжы чалавечых магчымасцей, адысея. М. Пазнякоў у расповедзе як быццам нешматслоўны, але гэта ніяк не адбіваецца на мастацкіх вартасцях аповесці. Яна дынамічная, а само дзеянне, быццам спружына, раскручваецца паступова, кожным разам дадаючы штосьці новае ў раскрыцці характару Зыкава, які, хоць і апынуўся ў вельмі складанай сітуацыі, не падае духам. Ім кіруе жаданне выжыць. Выжыць для Зыкава — не проста дабрацца ў родныя мясціны на Быхаўшчыне, але зноў узяцца за зброю.

Найбольш суровым выпрабаваннем для галоўнага героя стала знаходжанне ў лагеры ваеннапалонных. Здавалася б, колькі напісана пра лагерныя здзекі. Але кожным разам пра гэта нельга чытаць спакойна. Тым больш што М. Пазнякоў падае адначасна два «ракурсы»: першы паказвае зверствы ворагаў, другі — тое, што перажывалі ўласна палонныя.

Вельмі праўдзіва расказваецца пра ўцёкі Зыкава з палону, а таксама пра яго знаходжанне ў адным з партызанскіх атрадаў. На жаль, ваяваў нядоўга. Гібель капітана — найлепшае пацвярджэнне таму, што, у якой бы складанай сітуацыі ні апынуўся сумленны чалавек, ён заўсёды знойдзе годнае выйсце. Нават тады, калі давядзецца заплаціць жыццём.

Маці Міхася Паўлавіча расказала яму не толькі пра свайго брата. Згадкі блізкага пісьменніку чалавека пакладзеныя ў аснову некаторых апавяданняў. Вылучаецца «Хорошие немцы». Яно лішні раз пацвярджае, што аднабакова нельга ўспрымаць нават ворагаў. Карны атрад, уварваўшыся ў вёску, збіраўся яе паліць. Маці М. Пазнякова, кінуўшыся вынесці з хаты самае неабходнае, сутыкнулася з нямецкім афіцэрам. Той не толькі не прагнаў яе, але й параіў паспяшацца. Калі ж адзін з паліцаяў кінуў забранае назад у хату, афіцэр прыйшоў на дапамогу.

Аўтабіяграфічны чыннік — аснова апавяданняў, М. Пазнякоў узнаўляе выпадкі з педагагічнай працы. Некаторы час ён настаўнічаў у школах Бярэзінскага раёна і Мінска. Гісторыі маюць адну агульную думку: заўсёды важна знайсці з вучнямі паразуменне. Тады нават самыя «цяжкія» з іх павернуцца да цябе лепшымі якасцямі характару, спачатку і незаўважнымі.

З цеплынёй піша М. Пазнякоў пра сваіх землякоў. Увайшло ў кнігу і некалькі надзвычай арыгінальных гумарэсак: «Необыкновенная встреча», «Поездка к морю», «Чья дочь». Іх вылучае не толькі дасціпны гумар, але й нязменная інтрыга.

# «Меню» ад Міхася Слівы

Ён выступае ў самых розных літаратурных жанрах. Прыкладам, новая кніга «Арыгінальнае меню», што выйшла ў выдавецтве «Кнігазбор», адкрываецца падборкай апавяданняў, аб'яднаных назвай «Там, дзе Друць з Дняпром зліваюцца». Гэтыя творы не тое каб надта вызначаюцца сюжэтамі, аднак М. Сліва ўмее заставацца арыгінальным і тады, калі асэнсоўвае традыцыйную тэму кахання. У гэтым пераконвае апавяданне "Запрашэнне ў Рыгу".

Пачатак пазнавальны: «Перабіраючы паперы ў сваім дамашнім архіве, Алесь Мікалаевіч натрапіў на лісток з настольнага календара. Пазначаная на ім дата сведчыла, што трапіў ён у шматлікія паперы гаспадара больш як два дзясяткі гадоў таму. Нічога дзіўнага ў гэтым не было. Бо ў Алеся Мікалаевіча захоўваліся ў папках паперы і яшчэ даўнейшыя. Надзвычай важнымі для яго былі запісы на лістку: адрас і нумар тэлефона». Як і мае быць, наплылі ўспаміны. Памяць вярнула ў даўняе, калі працаваў у навукова-даследчай установе. Працавала ў ёй і Галіна Антонаўна, доктар біялагічных навук. Гэта яна пакінула Алесю Мікалаевічу свае дадзеныя,назаўсёды ад'язджаючы ў Рыгу да сына.

Выпадак дапамог ім сустрэцца. Яна неабыякава ставілася да яго, як і ён да яе. Былі радасныя хвіліны спаткання, былі ўзаемныя пачуцці. Ды толькі… Пра гэтае «толькі» даведаешся, прачытаўшы апавяданне да канца, дзе й схавана тое галоўнае, што дазваляе гаварыць пра твор, нягледзячы на традыцыйнасць сюжэта, як пра арыгінальны.

Гэта тычыцца і іншых апавяданняў падборкі, назва якой невыпадковая. Друць з Дняпром зліваюцца там, дзе знаходзіцца Рагачоў, радзіма М. Слівы. Дарэчы згадаць цыкл навел «Рагачоўскія абразкі», своеасаблівыя замалёўкі з натуры. Часам сур'ёзныя, калі-нікалі жартаўлівыя, яны належаць да таго, што не прыдумае нават самая багатая фантазія. Застаецца толькі быць вельмі назіральным чалавекам, каб усё гэта прыкмеціць у паўсядзённасці.




Аднак чытачу, бадай, карціць хутчэй даведацца, якое яно, «меню» М. Слівы, і ў чым ягоная арыгінальнасць. Назву кнізе даў аднайменны раздзел, у якім ёсць дасціпны дыялог пад той жа назвай:

*— Суседка, запрашаю цябе на абед!*
*— А што будзе смачненькага?*
*— Што купіш, тое і з'ядзім.*

Кожны твор выклікае добрую ўсмешку, а калі ўсміхаешся, то і гнятлівы настрой, які незнарок з'явіўся, адразу знікае.

Раздзел «Рагатыя прыгажуні» — таксама гумарыстычны. У аснову яго пакладзеныя розныя недарэчнасці, узятыя з асобных выступленняў, допісаў у газеты, а таксама скаргі, аб'явы і шмат што іншае. Усё тое, пазнаёміўшыся з чым, упэўніваешся, што няма мяжы чалавечай… Не ведаю нават, як лепш сказаць. Бадай так: чалавек — такая загадка, якую ніколі не разгадаць.

Ёсць у новай кнізе М. Слівы раздзел «Каб і ўзімку сніўся сенакос» з развагамі… пра сны. Прадстаўлены раздзел «Трэба ў неба глядзець часцей», дзе аўтар выступае ў ролі крытыка. Кола тых, пра каго ён піша, прадстаўнічае, што сведчыць на карысць таго, наколькі ўважліва М. Сліва ставіцца да сучаснага літаратурнага працэсу. Дый выступае з развагамі «Кніга будзе жыць!» у сувязі з 20-годдзем выдавецтва «Чатыры чвэрці».

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# «Я ЎСЁ ЖЫЦЦЁ ІМКНУЎСЯ ДА СВЯТЛА...»

## (да 155-годдзя з дня нараджэння Адама Багдановіча)

Вядомы этнограф, фальклярыст, мемуарыст... Усё гэта пра бацьку класіка беларускай літаратуры Максіма Багдановіча. Адам Ягоравіч Багдановіч нарадзіўся ў сям'і дваровых сялян. Але дзякуючы здольнасцям, талентам і настойлівасці змог атрымаць адукацыю і прафесію. Працаваў настаўнікам у вёсцы Пагарэлае Ігуменскага павета (цяпер Асіповіцкі р-н, Магілёўская вобл.), а ў 1886 годзе стаў настаўнікам, пазней дырэктарам 1-й Мінскай прыходскай вучэльні. Аднак неўзабаве, у сувязі з пагаршэннем стану здароўя, Адам Багдановіч вымушаны быў шукаць іншае месца службы: у 1892 годзе ён стаў банкаўскім служачым у гродзенскім аддзяленні Сялянскага пазямельнага банка.

Фактычна, рашэнне ўладкавацца на працу ў гэтую ўстанову паўплывала на далейшы лёс Адама Ягоравіча і яго блізкіх. У хуткім часе, у сувязі з пераводам А. Багдановіча ў аддзяленне банка ў Ніжнім Ноўгарадзе, сям'я апынулася ў абсалютна новым культурным асяродку, на іншай зямлі, якая ў выніку для Багдановічаў, Гапановічаў і Галаванаў (сямей сясцёр А. Я. Багдановіча, якія пераехалі ў Ніжні Ноўгарад за братам) стала другой радзімай. У Яраслаўль Адам Ягоравіч перавёз сваю сям'ю на пачатку чэрвеня 1908 года, і пасля шматразовых пераездаў пасяліўся ў гэтым горадзе і пражыў у ім да канца сваіх дзён. Вёў актыўную навуковую і выкладчыцкую дзейнасць, з'яўляючыся загадчыкам бібліятэкі Яраслаўскага гістарычнага музея (пазней Абласны дзяржаўны музей), браў удзел у фарміраванні навуковай бібліятэкі і стварэнні пры ёй Музея кнігі. Чытаў курс лекцый па гісторыі культуры ў мастацка-педагагічным, тэатральным і музычным тэхнікумах, удзельнічаў у навуковых пасяджэннях, выступаў з дакладамі на разнастайных краязнаўчых канферэнцыях.



А. Багдановіч у Мінску ў 1923 годзе.

У Яраслаўлі А. Багдановіч пачаў актыўна займацца мемуарыстыкай, аддаючы перавагу самым яскравым падзеям у сваім жыцці. Такім чынам былі напісаны ўспаміны пра сына («Матэрыялы да біяграфіі Максіма Адамавіча Багдановіча»), а сваё жыццё, вучобу, лёс землякоў ён апісаў у «Маіх успамінах», якія ў найбольш поўнай версіі былі выдадзены ў 2012 г. (Адам Багдановіч «Я ўсё жыццё імкнуўся да святла. Мае ўспаміны» Кніга першая) па рукапісах, якія захоўваюцца ў Літаратурным музеі Максіма Багдановіча.

Адной з найбольш значных частак спадчыны А. Багдановіча з'яўляюцца дакументы, звязаныя з імем Максіма Горкага. Знаёмства з тады яшчэ малавядомым рускім пісьменнікам адбылося ў Ніжнім Ноўгарадзе. А. Багдановіч атрымаў рэкамендацыйны ліст да Максіма Горкага ад рускага пісьменніка Яўгенія Чырыкава (1864 — 1932), які тады жыў у Мінску. Пасля прыезду на новае месца Адам Ягоравіч адразу перадаў яго будучаму класіку рускай літаратуры. Так завязалася сяброўства, якое пазней умацавалася шлюбам А. Багдановіча з Аляксандрай Волжынай, роднай сястрой жонкі М. Горкага Кацярыны Пешкавай.

А. Багдановіч ганарыўся сваім знаёмствам з М. Горкім. Пакінуў успаміны пра пісьменніка, якія друкаваліся ў калектыўных зборніках у 1920 — 1930 гадах. У Літаратурным музеі Максіма Багдановіча захоўваюцца неапублікаваныя ўспаміны Адама Ягоравіча пра знаёмства і далейшае сяброўства М. Горкага і Ф. Шаляпіна, непасрэдным сведкам якіх ён стаў: *«У нижні 1900 года адбылося асабістае знаёмства А. М-ча з Ф. Шаляпіным. Гэта было першае знаёмства: сведчанні, якія можна знайсці ў літаратуры, пра іх знаёмства ў Казані і інш. можна адвесці да галіны "ствараемых легенд". Справа была вельмі простай. Шаляпін, ужо вядомы спявак, прыехаў у Ніжні на гастролі ў Ярмарачны тэатр. А. М. пайшоў на адзін з першых спектакляў, здаецца, на "Фаўста". Выкананне Шаляпіным сваёй ролі яму так спадабалася, што ён адразу ж, з уласцівай яму экспансіўнасцю, пайшоў за кулісы і пазнаёміўся з ім, выказаўшы сваё захапленне спевамі і ігрой.*

*На наступны дзень Шаляпін з раніцы з'явіўся ў кватэры Пешкавых на Канатнай і атабарыўся тут да канца гастроляў. Тут ён піў, еў, спаў — і спяваў. Шмат спяваў, спяваў бясконца»* (Богданович А. Е. «М. Горький и Ф. И. Шаляпин в Нижнем. Отрывок из воспоминаний» // ЛММБ КП 8969-1). У сваіх успамінах Адам Ягоравіч характарызуе Ф. Шаляпіна не з лепшага боку, сведчаннем гэтаму з'яўляецца апісанне некаторых учынкаў і манеры паводзінаў артыста, але яго выканаўчым і акцёрскім талентам без межы захапляўся.

Актыўную навуковую дзейнасць А. Багдановіч распачаў у Яраслаўлі. Трэба адзначыць, што першыя этнаграфічныя даследаванні вучоны праводзіў яшчэ працуючы ў Мінску і Гродна, неаднаразова публікаваў артыкулы ў «Мінскіх губернскіх ведамасцях», «Мінскім лістку», пазней у «Гродзенскіх губернскіх ведамасцях», пасля пераезду ў Расію — у «Ніжагародскім лістку». У Гродне асобна былі выдадзены яго этнаграфічныя працы «Пра паншчыну. Нарысы сялянскага быту ў Беларусі» (1894 г.), а таксама кніга «Перажыткі старажытнага светасузірання ў беларусаў» (1895 г.).

Справай усяго свайго жыцця Адам Ягоравіч называў працу «Мова зямлі. Насельніцтва Верхняга Паволжа, Акі і Камы. Этналагічны нарыс па дадзеных вода-рачной наменклатуры і іншых матэрыялах». Менавіта ў яраслаўскі перыяд, цягам многіх гадоў, А. Багдановіч працаваў над гэтай кнігай. Не выключана, што матэрыялы і факталагічная база пачалі збірацца яшчэ ў Ніжнім Ноўгарадзе. Аўтар пісаў сваю кнігу ўжо ў савецкі час, на працягу дзесяці год. Неаднойчы Адам Ягоравіч выступаў на разнастайных канферэнцыях з дакладамі па гэтай тэме, усяляк папулярызаваў тэорыю, якая датычыла вода-рачной наменклатуры, і ўсімі намаганнямі імкнуўся выдаць сваю працу. Неаднаразова звяртаўся да Максіма Горкага за дапамогай у гэтым пытанні, спадзеючыся на яго аўтарытэт і сувязі, і пісьменнік ніколі не адмаўляў свайму знаёмаму ў дапамозе. У ЛММБ захоўваецца дваццаць чарнавікоў лістоў А. Багдановіча да М. Горкага, практычна кожны ліст тым ці іншым чынам закранае праблему выдання «Мовы зямлі».

Манаграфія «Мова зямлі» з'явілася пад уплывам новых поглядаў і тэорый, якія ўзніклі ў савецкай навуцы, калі апагея папулярнасці дасягнула «новае вучэнне пра мову» («яфетычная тэорыя») Мікалая Марра (1864 — 1934). Рукапіс быў адасланы ў Інстытут мовы і мыслення для рэцэнзіі і наступнай публікацыі. Манаграфію рэцэнзаваў Васіль Абаеў (1900 — 2001), выбітны савецкі вучоны-філолаг, які, як і шматлікія лінгвісты таго часу, быў прыхільнікам тэорыі М. Марра.



А. Багдановіч у Ніжнім Ноўгарадзе. Пачатак XX стагоддзя.

Аднак пры жыцці аўтара кніга так і не была апублікавана, хаця здзяйсняліся многія спробы, а праца трапляла на рэцэнзаванне да розных навукоўцаў. На пачатку 1930-х гг. А. Багдановіч даслаў рукапіс у АН БССР, дзе ён быў таксама прыняты з абяцаннем апублікаваць, чаго так і не адбылося. У 1966 г. у Яраслаўлі манаграфія «Мова зямлі» была выдадзена ў скарочаным варыянце, у агульнай колькасці 100 старонак. У ЛММБ захоўваецца поўны тэкст кнігі, які складаецца з 400 старонак.

Нягледзячы на тое, што захады па выданні прац не мелі поспеху, Адам Ягоравіч не пакідаў навуковую дзейнасць: неапублікаванымі засталіся рукапісы даследчых прац «Вода-рачныя і азёрныя імёны, як гістарычны, этналагічны і лінгвістычны матэрыял», «Вода-рачныя і азёрныя імёны», «Этнічны склад народаў славянскіх і рускіх», «Этнічны склад беларускага народа» і інш.

З 1920 года А. Багдановіч быў загадчыкам навуковай бібліятэкі Яраслаўскага гістарычнага музея. Апынуўшыся ў сваёй стыхіі пасля шматгадовай банкаўскай службы, адзначыўся актыўнай выставачнай і арганізацыйнай дзейнасцю. Працаваў у найскладанейшых умовах: бібліятэка да 1926 года не ацяплялася, доўгі час не мела бюджэту, некалькі разоў мяняла памяшканні... А. Багдановіч атрымаў у сваё распараджэнне 30 000 кніг без інвентарных нумароў, у бібліятэку ўвесь час звозіліся кнігі з ліквідаваных устаноў, выключаных з публічных бібліятэк, таксама «непрыдатныя» для чытання. Практычна адзін займаўся каталагізацыяй і інвентарызацыяй бібліятэкі, рознымі спосабамі папулярызаваў фонды, арганізоўваў выстаўкі... Усе выстаўкі суправаджаліся абавязковымі экскурсіямі, лекцыямі, кансультацыямі. Адам Ягоравіч стварыў Музей кнігі, не пакідаючы пры гэтым выкладчыцкай і навуковай дзейнасці, і нязменна ўдзельнічаў у канферэнцыях.

У 1930 годзе, праз дзесяць гадоў актыўнай і прадуктыўнай службы ў бібліятэцы, над А. Багдановічам навісла пагроза звальнення і магчымага арышту. *«За недастатковую пастаноўку працы Бібліятэкі, якая не стасуецца з сучаснымі патрабаваннямі, схільнасць да захавання прадметаў, якім не павінна адводзіцца месца ў савецкім музеі і няздольнасць у будучым наладзіць і прыстасаваць працы для неабходнай працоўнаму класу выхаваўчай працы, рашэннем камісіі па чыстцы апарата АКРАНА (Акружны аддзел народнай адукацыі. —* ***М. З.****) ад 30 сакавіка г/г здымаецца з працы па 3 кат[эгорыі].»* (Выписка из протокола № 60 заседания ярославской Окружной комиссии по руководству чисткой советского и кооперативного аппарата при Р.К.И. от 14 мая 1930 года // ЛММБ КП 7232). Звальненне па трэцяй катэгорыі адзначала звальненне з правам атрымання ніжэйаплачваемай пасады ў дадзенай сістэме. Для А. Багдановіча гэта стала нечаканасцю і праявай поўнай непавагі да яго асобы.

Падрабязна выклаўшы ўсе свае дасягненні, Адам Ягоравіч падаў заяву ў камісію, дзе па пунктах абверг усе абвінавачванні ў свой адрас (Богданович А. Е. Заявление В комиссию при ярославской окружной Р.К.И. по проверке и чистке советского аппарата // ЛММБ КП 7230-1). Пасля перагляду справы рашэннем камісіі пастанова аб звальненні была адменена, але загадчыку АКРАНА было рэкамендавана вызваліць А. Багдановіча ад займанай пасады як «патрабуючай шмат энергіі» (Выписка из протокола № 60 // ЛММБ КП 7232). Праз некаторы час Адам Ягоравіч пісаў Максіму Горкаму: *«Днямі выходжу ў адстаўку — не ведаю з пенсіяй ці без яе (так брыдка павярнуліся абставіны) і буду працягваць сваю працу перамяжоўваючы з успамінамі. О, колькі, колькі іх! Скончыць — не скончу. Але пісаць трэба»* (Богданович А. Е. Черновик письма к Горькому от 6.01.1931 г. // ЛММБ КП 9026).

Адам Багдановіч памёр у 1940 годзе, пакінуўшы пасля сябе вялікую колькасць навуковых прац, якія неаднаразова выдаваліся і атрымлівалі высокія адзнакі. Мноства з напісанага засталося нявыдадзеным і недаацэненым, шмат чаго з задуманага даследчык не паспеў ажыццявіць.

**Марына ЗАПАРТЫКА.**

**Фота з фондаў Літаратурнага музея Максіма Багдановіча.**

**1 красавіка — Міжнародны дзень смеху. Умеюць жартаваць і беларускія пісьменнікі. А вось і доказы! «ЛіМ» прадстаўляе чытачам паэтычныя пародыі Аляксандра Быкава і гумарыстычнае апавяданне Алёны Беланожка.**



Аляксандр БЫКАЎ

## Шніп на Мухлі

*Ад вершыкаў стамлёны,*
*Рэдактар-камандзір*
*Увечары з Міёнай*
*Выходзіць на шпацыр.*

*Няхай не знакаміты*
*Сабачы той сезам,*
*Ды Мухлі краявіды*
*Паэту як бальзам.*

*Прастора снегавая*
*У свеце ліхтароў.*
*Душа адпачывае,*
*І сэрца — будзь здароў!*

*Бязладдзе на планеце,*
*А Мухля бы каўчэг.*
*Міёна куст пакеціць —*
*Вялікі самы грэх.*

*Гуляе творца смела*
*Да позніх аж гадзін.*
*Міёна пасталела,*
*І ён тут не адзін.*

*Мо Шніпа не чытаюць*
*Сабачнікі-сябры,*
*Але яго вітаюць*
*З далёкае пары.*

*Расцалаваў, здаецца б,*
*Бо, зрэшты, як браты!*
*А заўтра ў выдавецтва,*
*Да графаманаў тых.*

*Ад твораў папкі ўспухлі,*
*А талентаў няма…*
*Сабачы брэх на Мухлі.*
*Міёна. Шніп. Зіма.*

## Няма ўжо гамонкі

Даўно адцвілі ўжо рамонкі,
І ружы даўно адцвілі…
Алёнка, Алёнка, Алёнка,
Ці ўспомніш мяне ты калі?

**Мікола Шабовіч**

*Пра тое няма ўжо гамонкі,*
*Як меў да дзяўчат я імпэт…*
*Навошта мне тыя алёнкі?*
*Працей без дзяўчат і кабет.*

*Я Бога малю і хрышчуся,*
*З трывогай чакаю званкоў:*
*А раптам якая у скрусе*
*Мяне адшукае ізноў?*

*І вымавіць: «Родненькі, першы…»*
*Ды кіне мне ў вочы папрок:*
*«Рамонкі завялі, канечне,*
*А твой падрастае сынок!»*
*Ў душы і трывога, і горыч,*
*Мабілы зноў чуецца гук.*
*Пранесла. То Дзіма Пятровіч —*
*Заве на вяселле сябрук!*

## Пасля кахання і віна

Каханне, людзі кажуць, як віно.
Ды скажа хто, чаму так адбылося,
Што гэтак хутка выпіта яно,
Адно, што здаць шклотару засталося.

**Мікола Шабовіч**

*Учора адцягнуўся я спаўна:*
*Пілося мне са смакам і маглося …*
*Бутэлькі здаў я зранку ад віна,*
*Цяпер каханку сплавіць засталося!*



Святлана ЛОКТЫШ

## ***

*Блакітнае мора чароўных ільноў —*
*Вяртаюся ў думках туды зноў і зноў.*
*Там неба блакіт у ільнах адаб'еца,*
*Там песня бабуліна мякка ільецца,*
*Там домікаў роўных снапковых рады…*
*Ляцяць, бы імгненні, зямныя гады.*
*Іх смелы палёт*
*(так спрадвеку вядзецца)*
*Надзейна ільном-даўгуном абаўецца:*

*Ручнік ільняны ахіне немаўлятка,*
*У шлюбе хлеб-соль паднясе для*
*дастатку,*
*Адправіць нябожчыка ў шлях*
*незваротны,*
*Іконку ў кутку упрыгожыць пяшчотна.*
*Бялюткі ж абрус на наш стол*
*пакладзецца.*
*Сукенка прыгорнецца мякка да сэрца.*
*Сарочка, спадніца, фартух, паясы…*

*У іх — парыжэлых ільноў галасы*
*Пра неба блакіт і палёт жаўрукоў,*
*Настоены водар прасторных палёў,*
*Пра кветак дзівосных блакітныя хвалі,*
*Пра край мой, што Белаю Руссю*
*назвалі.*

## Сніцца лета

*Што ні ноч, мне лета сніцца…*
*Не за сінімі марамі,*
*А за нашымі дварамі*
*Пахне бор густой жывіцай*
*І квітнее верасамі.*

*Дружна сосны-векавухі*
*Зазіраюць небу ў вочы,*
*Да прыгод лясных ахвочы.*
*А праз кроны светлавухі*
*Зайчык сонечны праскочыў.*

*Цішыня… Раскінеш важка*
*Рукі на імхах зялёных —*
*І адчуеш раптам: здольны*
*Госцем завітаць у казку —*
*Так раскошна, так прывольна.*

*І яшчэ магчыма здужаць*
*Неспадзеўны цяжар гэты:*
*Я цябе шукаю — дзе ты?..*
*Пасярод зімовай сцюжы*
*Што ні ноч, мне сніцца лета.*

## Салаўіныя ночы

*Адарыць цябе ўсмешкай*
*Або песнямі — хочаш?*
*Я дару табе ўсцешна*
*Салаўіныя ночы.*

*Як вясновыя рэкі,*
*Ажываюць надзеі.*
*Свет, прыгожы спрадвеку,*
*На вачах маладзее.*

*Салавей галасісты*
*Услаўляе каханку:*
*Дзіўна песні-батысты*
*Сцеле шчодра да ранку.*

*Шмат матываў выводзіць,*
*Захлінаецца ў страсці…*
*Як шкада, што праходзяць*
*Ночы з ноткамі шчасця.*



Станіслаў ВАЛОДЗЬКА

## Беларускі тэатр у Латвіі

*Чытаем мы, дыханне затаіўшы,*
*З мінулага кранальныя лісты.*
*Старэнькія пажоўклыя афішы*
*Яскрава кажуць нам аб часе тым.*

*Належнае аддаць сягоння трэба*
*Тэатру беларускаму — паклон,*
*Што некалі і над латвійскім небам*
*Прыносіў люду самы добры плён.*

*Тэатр народны й тут на мове роднай*
*Смяяўся й плакаў.*
*І таму не тух*
*Агмень надзеі, веры і любові*
*І браўся ў сілу беларускі дух.*

*Кудзелькі, Аляхновіча, Купалы*
*І Райніса тут шраг п'ес ішоў.*
*Чародкай галубінай узляталі*
*Апладысменты ўдзячных гледачоў.*

*Багінская, Мядзёлка, Міраповіч,*
*Габран ў галоўных ролях тут былі.*
*Ды ведалі яны: галоўней ролі*
*Няма — быць Чалавекам на зямлі.*

*У роздуме падчас не спаў да рання, —*
*Каб лепш гучала-бачылася ўсё*
*На сцэне.*
*Недарэмныя стаpанні:*
*Александровіч — добры рэжысёр.*

*І нас натхняе, акрыляе тое —*
*Ў мінуўшчыну масткі і кладкі ёсць!*
*Сябры «Уздыму» радасці не тояць*
*У тэатральнай студыі сваёй.*

*Адзначыць працу іх таксама варта.*
*Й яны рупліўцы, носьбіты дабра.*
*І бацька беларускага тэатра*
*Буйніцкі быў бы гэтаму так рад…*

## Ода кастру

*Рады мы, касцёр, цябе вітаць!*
*Нам з табой і ў непагадзь не скрушна.*
*Лепей нам праз далеч год відаць*
*Ля цябе — святлеюць нашы душы.*

*З намі, як заўсёды, гаваркі,*
*Лашчыш слых нам моваю чароўнай.*
*Сонейкам здаешся, на якім*
*Не відаць ніводнай плямы чорнай.*

*Нас ты, ў круг сабраўшы, азарыў.*
*Мы з табою сэрцы не астудзім.*
*Ад цябе натхненнем мы гарым*
*І жаданнем быць людзьмі,*
*то й будзем…*

*Ды і ў гэты раз надыдзе час —*
*Да сустрэчы новай развітацца.*
*Іскраў тваіх россыпы*
*да нас*
*Зорным ліўнем будуць зноў вяртацца.*

*На дасвецці свой зямны паклон*
*Поўня аддае табе таксама.*
*Як і нашым прадзедам спакон,*
*Ты, касцёр, наш сябар лепшы самы…*



Марыя ШАКУН

## Я люблю Беларусь

*Над Радзімай маёй бела-русаю*
*Неба чыстае, сонейка светлае,*
*Ганаруся табой, ганаруся я*
*Прыгажосцю тваёй непрыкметнаю.*

*Я люблю Беларусь, яе мудрасць і сілу,*
*Я люблю Беларусь, светлы*
*лік Еўфрасінні,*
*І Сафіі званы, Мір, Нясвіжа палацы,*
*І прыгожы народ, што жыве*
*сваёй працай.*

*Пра Радзіму маю яснавокую*
*Слава добрая песенькай звонкаю*
*Разляцелася ў далі далёкія*
*І заззяла над роднай старонкаю.*

*Я люблю Беларусь, яе мову і казку,*
*Я люблю Беларусь за матуліну ласку,*
*За крыніц чысціню, водар хлебнага*
*поля…*
*Хай красуе-цвіце у вяках твая доля.*
*Я люблю Беларусь, зноў і зноў паўтараю:*
*Няма ў свеце мілей майго роднага краю!*

## Наталі сваё сэрца…

*Наталі сваё сэрца пяшчотай,*
*Прыгажосцю душу наталі*
*І запоўні ўсе будні работай,*
*Каб яны ў марнаце не прайшлі.*

*Беражы сваіх блізкіх і родных,*
*Атулі іх увагай, цяплом,*
*І знаёмых людзей, незнаёмых*
*Паважай і шануй родны дом.*

*Хай у сэрцы тваім хопіць месца*
*Для усіх, хто жыве на зямлі,*
*Хай і плача яно, і смяецца,*
*Калі гора ці радасць прыйшлі…*

## Узбалаць

*Я з гэтай зямелькі, я з гэтай старонкі,*
*Дзе спеў жаўрука такі радасна-звонкі,*
*Дзе сонейка свеціць, калышуцца нівы*
*І грае на дудцы ветрык шчаслівы.*

*Мае тут вытокі, праз поле сцяжынка,*
*У небе высокім плыве аблачынка,*
*Бярэзіна-рэчка пятляе, віецца...*
*Тут вёсачка Узбалаць, з ёй маё сэрца.*

*О, вёсачка мілая, ты сваіх дзетак*
*І помніш, і любіш, чакаеш са свету.*
*Прыедуць — прытуляцца, сіл набяруцца,*
*Каб зноў у праблемы жыцця акунуцца.*

*А тыя, хто разам, заўсёды з табою,*
*Цябе даглядаюць і песцяць з любоўю.*
*Глыбокі паклон ім, маё захапленне.*
*Яны зберагуць цябе для пакаленняў.*




Алёна БЕЛАНОЖКА

# ПЛОТКА, ВЕРХАВОДКА І НОВАЯ ПАРФУМА

*Апавяданне*

Была субота. Марына і Наташа сядзелі на ўтульнай кухні каля акна з бела-ружовымі фіранкамі, пілі каву са свежымі бела-ружовымі зефіркамі, і настрой у іх станавіўся таксама бела-ружовы, святочны, сакавіцкі. Праз фіранкі ў пакой заглядала цікаўнае сонца, залатое, як галінка мімозы. Гэткім днём, поўным цеплыні і рамантыкі, жанчынам вельмі хацелася гуляць па горадзе са сваімі мужчынамі, лавіць носам вяснушкі, усміхацца і цалавацца. Але з рэк і азёр ужо сышоў лёд. Мужчыны вельмі ўзрадаваліся, схапілі летнія вудачкі ды падаліся на рыбалку — за горад, як мага далей ад утульных сямейных гнездзейкаў. Жанчынкам нічога не засталося, як хадзіць адна да адной у госці ды скардзіцца на сваіх мужчын: ад скаргаў на душы рабілася святлей ды прыўзнімаўся настрой.

— Рыбак-небарак! Вудачак — цэлы плот у шафе нагароджаны! А вяртаецца ж! Замораны, мокры, брудны, кашляе, і прынясе якія тры рыбіны — маленькія, празрыстыя, Барсік і той іх не есць, ледзьве не плача ад шкадобы, — сказала Марына і ўздыхнула.

Барсік, які ляжаў на падаконніку, згодна мыркнуў. Ён увогуле любіў не сырую рыбу, а вараныя курыныя ножкі, якія гаспадыня давала яму на сняданак.

Наташа пагладзіла Барсіка і сказала:

— Мой гэтаксама: прыцягнецца з тае рыбалкі, змерзлы, рыбай пахне, нібы з русалкай цалаваўся, упадзе на ложак і суткі спіць як мёртвы. Вось і зараз адправіўся на тры дні на нейкае там… вадасховішча. А мне зноў у кватэры сядзець, дабро сцерагчы? Я што, аўчарка? Добра, што не забыўся пра восьмае сакавіка! Глядзі, што мне падарыў!

Наташа паказала сяброўцы залатую падвеску на ланцужку — у выглядзе рыбкі.

— Сказаў: «Са святам, рыбка мая!», з'еў кавалак мяса па-французску, тортам закусіў і спаць пайшоў. А я цэлы дзень каля пліты завіхалася!

— Залатая? — спыталася Марына, разглядаючы падвеску.

Наташа кіўнула.

— То, можа, будзе жаданні спаўняць! А мне мой даражэнькі падарыў парфуму з ферамонамі. Прывёз з камандзіроўкі. Вось, глядзі!

Яна паказала сяброўцы фігурны флакончык з блакітнай вадкасцю. Наташа пакруціла яго ў руках, адкрыла, панюхала, пырснула на запясце. Марына таксама пырснулася. Барсік чмыхнуў і выбег з кухні.

— Вось вернецца мой ненаглядны, а я такая ўся ферамонамі пахну! — уявіла Наташа і спахмурнела. — Ат, ён, напэўна, зноў прывязе з рыбалкі насмарк, дык нават і не ўчуе тыя ферамоны…

Марына ўкусіла зефірку і задумалася:

— Цікава… Што ж такое адбываецца на гэтай рыбалцы, што мужыкі туды цягнуцца... Мёдам намазана?

— Я тут падумала… — ажывілася Наташа. — Дакладней, прачытала ў адным часопісе, што для гармоніі ў сямейным жыцці трэба пранікнуцца любімымі заняткамі сваёй палавінкі. Тут у нас якраз заліў пад бокам…

Сяброўкі пераглянуліся і па-змоўніцку ўсміхнуліся. Наташа падхапілася ды пабегла дадому: яна жыла ў суседнім пад'ездзе.

Тым часам Марына дастала з мужавай шафачкі вудачку, з-пад ванны — вядзерца ў рамонкі, а са скрыні для абутку — гумавыя боцікі, усыпаныя стразікамі.

Наташа вярнулася таксама ў боціках са стразікамі і з мужавай вудачкай. Яшчэ прыхапіла вялікі даведнік па рыбалоўстве.

— Дзедава кніга, дужа каштоўная, — паведаміла сяброўцы. — Дзед яе як Святое Пісанне бярог і майму дарагому ў дзень вяселля падарыў.

Марына надзела кепачку:

— Ну, я гатовая! Можна ісці!

— Ды пачакай! Прынада ж трэба. На пусты кручок многа не зловіш. На што вудзіць будзем? На чарвяка? На мрым… як яе… — Наташа зазірнула ў кнігу. — На мармышку?

Марына скрывіла вусны:

— Фу-у-у, гідкія, фу-фу-фу! Давай на што-небудзь, што не шавеліцца.

Наташа пагартала старонкі:

— Тут напісана: можна на кашу! Пярловую, манную…

— Давай на манку!

Марына пайшла на кухню і пракрычала адтуль, грукаючы слоікамі:

— Масла дадаваць трэба? Што там рыба любіць?

— Не! — крыкнула Наташа ў адказ. — Тут пра масла нічога не гаворыцца! Напісана: проста заліць вадой і пачакаць!

Праз дзесяць хвілін сяброўкі выйшлі з дому і накіраваліся ў бок заліва. Гэта была любімая зона адпачынку ўсіх гараджан; зрэшты, іншай у горадзе і не мелася. Улетку людзі тут купаліся, загаралі і смажылі шашлыкі — з шумам, песнямі ды крыкамі. Мясцовым аматарам лову летам удавалася крыху павудзіць хіба што на самым світанні, пакуль горад спаў, затое зімою ды ўвесну тут не было дзе яблыку ўпасці ад рыбакоў. Мужчыны прыходзілі сюды пахваліцца новымі вудачкамі, азартна мераліся, у каго даўжэйшае, таўсцейшае або самае гнуткае вудзілішча, ды намагаліся выцягнуць з вады самую вялікую рыбіну — на зайздрасць астатнім няўдачнікам.

Вось і зараз з усіх хмызоў тырчэлі вудачкі, і толькі пясчаная водмель — «пляжык» — была пустой: які ж рыбак будзе сядзець на адкрытым месцы, як тапаля пасярод поля? Да таго ж, тут была самая бязрыбная паласа на ўсім заліве.

Але сяброўкі гэтага не ведалі. Марына і Наташа нават узрадаваліся, што «пляжык», на якім яны любілі ўлетку загараць, аказаўся свабодным. Яны паставілі вядзерца на пясок, а побач паклалі вудачкі, каб не заблытацца ў лесцы.

Наташа першая накруціла манку на кручок, пацалавала камячок «на шчасце», як рабіў яе дзядуля, асцярожна падняла вудачку ды закінула кручок у ваду.

Праз хвіліну паплавок таргануўся і забегаў улева-ўправа.

— Цягні! — крыкнула Марына.

Наташа запішчэла ад хвалявання і выцягнула з вады першую ў сваім жыцці здабычу. Гэта была ладная рыбіна з чырвонымі вочкамі і такімі ж чырвонымі плаўнікамі.


Фота Кастуся Дробава.

— Плотка! — канстатавала Наташа, зверыўшыся з даведнікам, і кінула рыбу ў вядзерка.

— Цяпер я паспрабую! — Марына таксама накруціла манку на кручок, пацалавала яго і запусціла ў ваду. Таксама не прайшло й хвіліны, як паплавок пабег убок, а потым скрыўся пад вадой.

— Падсякай! — крыкнула Наташа.

У паветры бліснула сімпатычная рыбка з шэрай спінкай. Наташа зняла рыбку з кручка і пусціла ў вядзерца.

— Верхаводка! — абвясціла яна, пагартаўшы кніжку. — Перадай мне манку, калі ласка…

Праз паўгадзіны ў сяброўак было поўнае вядро рыбы. Яны цягалі з вады плотак, карасёў, лешчыкаў і верхаводачак, пішчэлі, смяяліся, абдымаліся, спявалі і ўвогуле вельмі добра бавілі час, чаго нельга было сказаць пра іншых рыбакоў, якія выбраліся ў гэты дзень на заліў.

У іх не клявала. Зусім. Ні ў кога.

Рыбакі пачалі раз-пораз высоўвацца з хмызоў і з цікаўнасцю паглядаць на сяброўак у боціках са стразамі, якія цягалі з вады рыбіну за рыбінай, нібыта здзекаваліся з паважаных сур'ёзных мужчын. Нарэшце прыўзняўся над вербалозам і дзядзька Васіль.

Ён ніколі не вяртаўся дадому з пустымі рукамі. Сярод мясцовых заўзятараў у яго нават была мянушка — Рыбны Цар. Рыба як быццам сама скакала да яго ў вядро. Ён прыносіў яе з рыбалкі цэлымі гронкамі, нанізаўшы на вербалозавыя пруты, сушыў, вяліў і прадаваў на кірмашы. Але сёння і ў ягоным шчаслівым вядры было пуста.

Дзядзька Васіль пакінуў сваю схованку, запаліў цыгарэтку і ціхенька падышоў да жанчынак.

— Ну што, канкурэнткі? Клюе? — спытаўся далікатна.

— Клюе! — адказалі сяброўкі, і Наташа ў пацвярджэнне выцягнула з вады добрага карасіка.

— А на што ловіце? — пацікавіўся дзядзька Васіль.

— Ды вось, на манку! — адказала Марына ды падабрала вусны, старанна намотваючы кашу на кручок.

— Хм-м-м… — дзядзька Васіль моцна задумаўся. Тутэйшая рыба, спешчаная прыкормам, на манку даўно не вялася.

Рыбны Цар яшчэ раз паглядзеў на сяброўак, слоічак з манкай, вядро з рыбай, нават ушчыкнуў сябе, каб праверыць, ці не сніцца яму такое дзіва. Пасля пацягнуў носам паветра — і, нарэшце, зразумеў, што адбываецца.

Дзядзька Васіль пастаянна смактаў валідол. Аднак байка пра хворае сэрца была легендай для канкурэнтаў. На самай справе сэрца ў яго было здаровае, як у дваццаціградовага дзецюка. А валідолам ён пахнуў таму, што ведаў: рыба, як жанчына, дужа любіць лёгкія, прыемныя водары — напрыклад, ментолавы. Дзядзька Васіль паважна, нікуды не спяшаючыся, даставаў з блістара белы кругляшык валідолу і клаў пад язык. Потым насаджваў на кручок прынаду. На прынадзе заставаўся лёгкі ментолавы водар, і рыба праглынала яе з асаблівым задавальненнем.

Аднак у няроўным баі за водныя багацці сёння з відавочнай перавагай перамагла тая самая парфума з ферамонамі, якой пахлі сяброўкі. Тонкая парфумерная кампазіцыя прыцягнула да пустынной водмелі рыбу з усяго заліва.

— А чым гэта вы так надушыліся ды напамадзіліся, прыгажуні? — спытаўся дзядзька Васіль. (Ён няйнакш меў намер хуценька пабегчы ў краму і здабыць такую ж парфуму — вядома, не для жонкі, а для канчатковай перамогі над канкурэнткамі.)

— Гэта мне муж з Парыжа прывёз, у нашым горадзе не знойдзеце! — адказала Марына.

— Ясна, — расчаравана прабубнеў Рыбны Цар і сабраўся змотваць вудачкі: сёння можна было не разлічваць на ўлоў.

Нечаканая вудзілішча Марыны перагнулася так, што тая ледзьве ўтрымала яго ў руках.

— А-яй, Наташка, памажы, цягне за сабой!

— Дурніца, ты, напэўна, вадалаза злавіла! — закрычала Наташа і кінулася да сяброўкі, але дзядзька Васіль апярэдзіў:

— Ну-тка, пасунься, прынцэса!

Той, хто быў на кручку, таргануўся з такой сілай, што Рыбны Цар ледзьве не зарыўся носам у пясок. Дзядзька Васіль сплюнуў цыгарэту, прыспусціў лесу і закрычаў:

— Мужыкі! Мужыкі, сюды хутчэй! Сарвецца, сарвецца ж!

Рыбакі пакідалі вуды.

— Не цягні, не цягні, каб леса не парвалася! — мітусіліся, дапамагаючы Васілю. — Адпусці, хай паплавае, стоміцца! Гэта ж трэба — сам прыплыў, дзе рыбы густа, там і ён!

— Вудачку не паламайце! — турбавалася Марына, бо гэта была вудачка яе мужа.

Прайшла гадзіна, і змораныя, мокрыя рыбакі, нарэшце, выцягнулі з вады… неверагодных памераў і прыгажосці шчупака!

— Дванаццаць кілаграмаў, не меней! — захапляліся мужчыны і фатаграфаваліся з гэтакім знатным трафеем. — Дзяўчаты, давайце да нас, шчоўкнемся разам! Мы на гэтага монстра трэці год палюем, а вы прыйшлі — і ён сам да вас прыплыў!

Але Марына і Наташа фатаграфавацца са шчупаком нават не думалі.

— Што вы, што! — адмахнулася Марына. — Мой ніколі не паверыць, што мы поўнае вядро рыбы нацягалі, ды яшчэ шчупака злавілі. Скажа, палюбоўніка сабе завяла, на заліў да яго бегае.

— А мне рыбу дадому несці нельга, — сказала Наташа. — Мой якраз на рыбалку паехаў. Калі скажу, што купіла, — раззлуецца, скажу, што сама налавіла, — пакрыўдзіцца.

— Не, шчупака ўсё-ткі забярыце! — сказаў Рыбны Цар. — А то мы з-за яго пераб'ёмся.

— Куды ж мы яго падзенем?

— А вы яго ў рэстаран прадайце, — параіў дзядзька Васіль.

— І праўда! — абрадавалася Наташа. — Марынка, прададзім гэтага прыгажуна ў рэстаран ды купім сабе вудачкі!

А дзядзька Васіль запаліў цыгарэтку і падміргнуў:

— Вы, дзяўчаткі, прыходзьце сюды яшчэ. Я вам раскажу, дзе можна злавіць казачнага ментуза і дзе водзяцца выдатныя самы!

# «Душы нашай частка...»

**Рыма Ханінава — дачка калмыцкага паэта і беларускага партызана Міхаіла Хонінава. У сёлетнім лютым яна наведала Беларусь як удзельнік Міжнароднага сімпозіума літаратараў «Пісьменнік і час», які ладзіўся падчас XXIV Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу. Гасцявала ў Мінску, у нашай краіне, дарэчы, упершыню. Прыехала зараней. З'ездзіла ў Беразіно, ганаровым грамадзянінам якога з'яўляецца Міхаіл Хонінаў. Сфатаграфавалася ў гэтым мінскім райцэнтры на вуліцы, якая носіць імя яе гераічнага бацькі. Пабывала ў Коласаўскім музеі і музеі Заіра Азгура. Дарэчы, у апошняй скарбніцы адшукала скульптурны партрэт Міхаіла Ванькаевіча. Пазнаёмілася з Беларускім дзяржаўным музеем Вялікай Айчыннай вайны. Перадала ў Нацыянальную бібліятэку Беларусі кнігі, прысвечаныя калмыцкаму паэту, яго зборнікі вершаў, кнігу Янкі Купалы ў перакладзе М. Хонінава на калмыцкую мову.**

**А самымі яркімі ўражаннямі ад паездкі Рымы Міхайлаўны ў Беларусь сталі яе вершы, напісаныя літаральна па свежых слядах. Мы прапануем іх увазе чытачоў «ЛіМа» ў перакладзе на беларускую мову Юліі Алейчанка.**

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ**


Фота Кастуся Дробава.

**Рыма ХАНІНАВА**

## З «БЕЛАРУСКАЙ НІЗКІ»

### Калодзеж

Памяці дзяцей вёскі Шунёўка Докшыцкага раёна Віцебскай вобласці, скінутых фашыстамі ў калодзеж

*Ў калодзежы гэтым няма вады,*
*Ў калодзежы гэтым ляжаць камяні.*
*Не выпіць халоднай гаючай вады:*
*Дзіцячыя цені — ночы і дні.*

### Удовін хутар

Памяці жыхароў хутара Рэвяцічы Бярозаўскага раёна Брэсцкай вобласці

*Не дзеўкі-бярозкі, а ўдовушкі-ліпы*
*выходзяць гасцінцам і моляцца ціха.*
*Не дзеўкі-бярозкі, а ўдовушкі-ліпы*
*чакаюць мужоў і не вераць у ліха.*
*Пайшлі ўсе мужчыны на фронт,*
*ў партызаны,*
*крывавяць дагэтуль смяротныя раны…*
*Навекі — салдаты, заўжды —*
*партызаны.*
*А жонкі — ў чаканні навекі адданым.*
*І ўдовін той хутар ў зямлі беларускай*
*такі, як і ўсюды сусветнай вайною.*
*Разбіты, скароны цяжарам-прымусам,*
*адзначаны чарай бяды кругавою.*
*Старэюць удовы, і ліст ападае, —*
*мужы маладыя, узросту не знаюць…*
*Сыходзяць удовы і след пакідаюць —*
*а ўнукі шчаслівага лёсу чакаюць.*
*Шумяць тыя ліпы — жывых заклікаюць.*
*Маўчаць тыя ліпы — галовы схіляюць.*
*У цішы музейнай мы чуем іх шолах —*
*Гаротнае, даўняе, шчырае слова.*

### Пляшка

Безназоўным байцам Вялікай Айчыннай вайны

*Тут аскепак галёначнай косткі*
*чалавека у пляшчы разбітай,*
*і гаротна музейныя госці*
*над жыццём зноў стаяць забітым…*
*Хто, ваяр ён цяпер безназоўны,*
*ці мужчына то, ці жанчына?*
*Камандзір ці баец? Грунтоўны*
*след у памяці ён пакінуў.*
*Ён застаўся ў зямлі сваіх продкаў,*
*уся краіна яму цяпер маці.*
*Ўсе суседзі, хто тое помніў,*
*хто не можа прах адшукаці.*
*Хай не тая цяпер зямліца,*
*хай і дом не такі, як сніца.*
*Ды Радзіма з цяплом у сэрцы*
*будзе вечна аб ім клапаціцца.*
*Ці ўзгадаем бядоты-сваркі*
*у жыцці мінулым сямейным?*
*Да чаго нам гэтыя звадкі,*
*калі костка ў пляшцы ваеннай?..*
*Калі згінулы — наш сучаснік,*
*хоць нядаўна знойдзены ў полі.*
*Ён цяпер — душы нашай частка,*
*свой для нас у нясцерпным болі.*
*Быццам ён з той вайны вяртаецца,*
*верыць у лепшае не дарэмна,*
*і за ўсё навек прабачаецца,*
*і жадае нам мары пэўнай…*

**Пераклад з рускай Юліі АЛЕЙЧАНКА**

# Прывітанне з Каракумскай старонкі

**Чэмен Анабердыева нарадзілася ў снежні 1966 года ў сяле Геактэпэ Мургабскага этрапа. Гэта Марыйскі велаят, ці па-ранейшаму Мургабскі раён Марыйскай вобласці. Адзін з найцікавейшых — і па прыродзе, і з гістарычнага пункту гледжання — куточкаў Туркменістана. Скончыла Ашгабадскі педагагічны інстытут (у 1989 годзе). Піша не толькі вершы, але і апавяданні, выступае ў перыядычным друку з артыкуламі. Друкавалася ў газетах «Эдэбіят ве сунгат», «Ватан», «Несіл», «Адалат», а таксама ў часопісах «Гарагум», «Зенан калбы», «Медзеніет». Першым сваім творчым настаўнікам Чэмен лічыць бацьку — вядомага ў Туркменістане паэта Атаджана Анабердыева. Асабіста для туркменскай паэтэсы ён у адным шэрагу з Сяргеем Ясеніным, Мікалаем Рубцовым, лірыкамі, якіх Чэмен з захапленнем перачытвае ўвесь час. У 2013 годзе паэтэса, чые творы мы прапануем беларускаму чытачу ў перакладзе Марыі Кобец, стала пераможцай конкурсу Прэзідэнта Туркменістана «Туркменін Алтын асыры» («Залаты век Туркменістана»).**

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

**Чэмен АНАБЕРДЫЕВА**

### Сфатаграфуй мяне, фатограф

*Сфатаграфуй мяне, фатограф,*
*ну, хадзем жа!*
*Здымі — у поўны рост, ледзь-ледзь набок.*
*Найлепшыя ўпрыгожванні надзеўшы,*
*Я кіну выклік тым, хто пэўна*
*меў папрок.*

*Здымі, і лепей так, каб відавочна*
*ўваччу зіхцеў іскрынак карагод,*
*Каб быў відзён у колерах паўзмрочных*
*Бляск воч маіх,*
*шчаслівых без нагод.*

### У цемнаце

*Прытаіліся дрэвы ў вечаровай цішы.*
*Маладзік заблукаў між сутокаў вышынь.*
*Чутны шэпат гарачы — жаданняў*
*вянец —*
*Не жадае ўпусціць свайго шчасця хлапец.*

*— Скажы «так» — назаву цябе*
*любай сваёй,*
*Я ў каханні к табе загубіў свой спакой.*
*«Так» скажы — і з мінулым пакончу*
*я ўраз,*
*І ад жонкі былой не пачую абраз.*

*А ў грудзях у дзяўчыны адказ як наспеў:*
*«Так», ды з розумам сэрца ўступае*
*ў сумнеў,*
*І варожыя думкі снуюць ў галаве:*
*— «Так», гары яно гарам,*
*ці ўсё-такі «не»?*
*Ды, хаваючы горыч, дзяўчына ў цішы*
*Таямніцаў сваіх выдаваць не спяшыць.*
*Шэпча вуснаў лагода:*
*— Прабач і бывай!*
*За адмову маю ў сэрцы зла не трымай.*
*На гняздоўях чужых птушкам гнёздаў*
*не віць,*
*На няшчасці другой мне шчаслівай*
*не быць.*

### Хто ты?

*...І няма на зямлі месца смуткам*
*пустым!*
*Ты са мной — і адпрэчу самоту.*
*Плача праліўнем неба надрыўна, густым...*
*Ці ўратуемся ў ім і ў грымотах?*
*Ці сябры ж мы з табою, ці... Хто ты?*

*Растае, як туман у лагчыне ці дым,*
*Ад вачэй тваіх — гіне нудота.*
*Усміхнешся — свет стане*
*мізэрна-малым,*
*Калі ж глянеш мне ў вочы ты ўпотай...*
*Ці сябры ж мы з табою, ці... Хто ты?*

*Для сустрэчы нагода — якая бяда!*
*Ды і я ж не баюся ліхотаў!*
*Хоць і вымавіш потым: «Бывай!*
*Мне шкада!»*
*Што ж, сваёй не кіруеш ахвотай...*
*Ці сябры ж мы з табою, ці... Хто ты?*

*Жар вачэй чужых — студзіш.*
*Запэўніся ты:*
*Гэта й праўда пустая марнота!*
*Мне не трэба вачэй чужых і пекнаты —*
*Толькі твой голас будзіць дрыготу...*
*Ці сябры ж мы з табою, ці... Хто ты?*

*Ад сяброўства да крыўды — хвіліна хады*
*І мяжа з недамовак згрызотных.*
*І маўчыш... Толькі вочы —*
*яскравей вады,*
*Толькі вочы не зманяць, як, пэўна,*
*і ты —*
*Ці сябры ж мы з табою, ці... Хто ты?*

**З туркменскай.**
**Пераклад Марыі КОБЕЦ**


Фота з сайта http://www.davidparrish.com/david-parrish-2/.

Дэвід Пэрыш.

# ТВОРЧАСЦЬ ЦІ БІЗНЕС?

## Што трэба ўлічваць, каб паспяхова рэалізаваць культурны праект

**Як зрабіць сваю творчасць запатрабаванай? Як атрымаць прыбытак ад крэатыўных ідэй? Калі вас часам наведваюць гэтыя пытанні, але да курсаў менеджменту ці маркетынгу справа пакуль не дайшла, кніга Дэвіда Пэрыша «Цішоткі і Пінжакі» будзе выдатнай знаходкай.**

Дэвід Пэрыш дваццаць пяць гадоў працуе ў сферы крэатыўных індустрый, спецыялізуецца на кансультаванні і падрыхтоўцы творчых прадпрымальнікаў, мае міжнародны досвед навучання больш як у 50 краінах свету. Кніга «Цішоткі і Пінжакі» была напісаная ў 2005 годзе, а сёлета пры падтрымцы праграмы «Культура і крэатыўнасць» пабачыла свет на беларускай мове ў перакладзе Дыяны Даражок. Аўтар прапануе добрыя парады па заснаванні крэатыўнага бізнесу, але кніга будзе цікавая ўсім, хто лічыць сваё жыццё творчым праектам і спадзяецца паспяхова рэалізаваць важныя культурныя ідэі.

### МАСТАЦТВА БІЗНЕСУ

Дэвід Пэрыш упэўнены, што таленавіты творца можа быць паспяховым прадпрымальнікам, але паміж творчасцю і бізнесам таксама ёсць нямала агульнага. «Мастацтва бізнесу палягае на тым, каб выбраць неабходнае з палітры бясконцых варыянтаў і стварыць той прадукт ці тую паслугу, якія б адпавядалі канкрэтным патрэбам кліентаў і прыносілі фінансавую карысць іх аўтарам. Вынікам такой працы стае ўнікальная **бізнес-формула** паспяховага прадпрыемства». Пісьменнік, мастак, рэжысёр гэтаксама прадумваюць унікальную мастацкую канцэпцыю твора, які будзе запатрабаваны пэўнай аўдыторыяй і павялічыць сімвалічны капітал творцы (яго вядомасць і аўтарытэт). Адпаведна, маркетынгавыя стратэгіі і канкурэнтная перавага, кіраванне зменамі і вызначэнне сваёй асноўнай кампетэнцыі — тэмы, якія маюць быць цікавымі для многіх спецыялістаў, якія працуюць у сферы культуры. Праблемы, перад якімі творцы часта апускаюць рукі, перасьледуюць таксама бізнесоўцаў і прадпрымальнікаў — таму іх досвед варта вывучаць і браць на ўзбраенне.

Нават калі вы лічыце, што паэтычныя зборнікі, выстаўкі хэнд-мэйд-вырабаў альбо серыя прэзентацый наўрад ці будуць сур'ёзнай крыніцай прыбытку, поспех кожнага беларускага праекта вельмі істотны, бо ўмацоўвае аўтарытэт нашай культуры. Кніга «Цішоткі і Пінжакі» дапамагае павярыць у свае сілы, абуджае дух прадпрымальніцтва, прапануе больш практычна і ўзважана ставіцца да творчых ідэй. Выданне мае метафарычную назву: цішоткі (футболкі) звычайна носяць крэатыўныя людзі, пінжакі — адзенне дзелавых людзей. Але творчасць і бізнес могуць быць аб'яднаныя ў хаўрус. Таму кніга Дэвіда Пэрыша распавядае пра тое, «як сумясціць найлепшыя ідэі "цішотак" і "пінжакоў" у крэатыўным бізнесе, ператвараючы талент творчасці ў плынь прыбытку».

### ДЗЕЛЯ КУЛЬТУРЫ

Але ці не ёсць прадпрымальніцтвая дзейнасць «д'яблавай сцежкай» для творчага чалавека? Дэвіду Пэрышу даводзілася сур'ёзна задумвацца над гэтым пытаннем:

— Дваццаць гадоў таму я і мае сябры вырашылі адкрыць кнігарню ў горадзе Манчэстэры. Гэта была цудоўная ідэя для культуры і літаратуры, але пра бізнес мы ў той час нічога не ведалі. Мы нават ганарыліся гэтым, бо лічылі бізнес брудным справай, звязанай з капіталізмам і эксплуатацыяй. Мы ганарыліся тым, што не займаемся бізнесам, не зарабляем грошы, таму жылі ў беднасці дзеля культуры і мастацтва. Але чым больш мы станавіліся кампетэнтнымі, тым большы прыбытак маглі атрымліваць. Маглі і арганізаваць справу па-іншаму — не атрымліваць прыбытку, мець чыстае сумленне і спакойна спаць. Я выбіраў: быць чыстым і бедным альбо камерцыйна паспяховым і прадаць душу д'яблу. Многія людзі дагэтуль пакутуюць ад немагчымасці спалучыць адно і другое. Але я вырашыў працягваць свой бізнес і ўсвядоміў, што разуменне бізнес-тэхнік дапамагае быць больш паспяховым. Тое, што дрэнныя людзі выкарыстоўвалі бізнес-тэхнікі ў сваіх дрэнных мэтах, не значыла, што нам трэба ад іх адмаўляцца, бо мы можам выкарыстоўваць іх у добрых мэтах — каб развіваць сваю культуру. Калі я зразумеў гэта, мне стала цікава больш даведацца пра фінансы, менеджмент, канкурэнцыю...

### АКТУАЛЬНЫ ДОСВЕД

Маючы вялікі досвед, Дэвід Пэрыш стаў аўтарам некалькіх дапаможнікаў для будучых прадпрымальнікаў. У кнізе «Цішоткі і Пінжакі» ён распавядае пра творчы бізнес як пра сферу абсалютна новую для патэнцыяльнага чытача і прапануе пазнаёміцца з такімі рэчамі, як фінансавыя абавязкі, аўтарскія правы, знешні аўдыт... Кніга таксама мае дапамагчы з распрацоўкай бізнес-стратэгіі, таму асобныя часткі прысвечаны маркетынгу, фільтру верагоднасці, планаванню грашовых плыняў. Зрэшты, кожны, хто вядзе пэўны культурны праект, павінен ведаць, як эфектыўна арганізоўваць працу, як правільна паводзіць сябе з калегамі і падначаленымі. Адпаведна, Дэвід Пэрыш нагадвае пра стылі лідарства, уменне казаць «не» і значнасць дзелавой рэпутацыі, прычым піша заўсёды цікава і проста.




У выданні багата практычнай інфармацыі і канкрэтных прыкладаў паспяховай рэалізацыі творчых праектаў. Галоўныя ідэі вынесены на палі, побач з асноўным тэкстам шмат крос-спасылак. Рэзюмуючы змест кожнай часткі, аўтар пазначае тыя моманты, над якімі варта задумацца ў дачыненні да ўласнай прафесійнай дзейнасці. У выніку чытач даведваецца пра розныя аспекты творчага бізнесу, пачынае канкрэтна ўяўляць свае «сем крокаў да поспеху». І нават калі вы не наважыцеся распачаць уласны бізнес, «Цішоткі і Пінжакі» дапамогуць больш сур'ёзна паставіцца да рэалізацыі самых розных жыццёвых і дзелавых праектаў.

Магчыма, чытач сумняецца, што парады заходнееўрапейскага спецыяліста прыдатныя для беларускай культурнай прасторы? На гэта Дэвід Пэрыш упэўнена сцвярджае: хто займаецца творчым бізнесам, зблольшага сутыкаецца з аднолькавымі праблемамі. «Каб вырашаць іх, мы можам карыстацца досведам нашых калег з розных рэгіёнаў, суадносіць яго з беларускай рэчаіснасцю. Зрэшты, мы можам быць крэатыўнымі. Мы ганарымся тым, што мы крэатыўныя, дык чаму б не выкарыстоўваць гэта ў сферы бізнесу?!»

У Беларусі таксама ёсць культурныя праекты, якія прыемна ўражваюць замежнікаў. Падчас прэзентацыі Дэвід Пэрыш распавёў пра платформу *talaka.by*. «Я добра ведаю пра краўдсорсінг, дзякуючы якому людзі могуць дапамагчы раскрыцца талентам, аб'яднаць здольнасці для ўдзелу ў праекце. Добра ведаю і пра краўдфандынг: прадстаўнікі грамадскасці робяць грашовыя ахвяраванні, каб разам рэалізаваць пэўны праект. У свеце ёсць шмат арганізацый, якія займаюцца і тым, і гэтым. Суполка «Талака» ў маёй практыцы — першая арганізацыя, якая займаецца і краўдсорсінгам, і краўдфандынгам адначасова, прычым вельмі паспяхова».

Дэвід Пэрыш упэўнены, што ў Беларусі, як і ў іншых краінах, ёсць дзейсныя, яркія, ініцыятыўныя людзі, якія з энтузіязмам бяруцца за справу, не баяцца змен і імкнуцца да поспеху. Менавіта ім і адрасаваная кніга «Цішоткі і Пінжакі». Вядома, у зацікаўленага чытача з цягам часу з'явіцца патрэба пашырыць веды пра многія тэндэнцыі, заканамернасці і з'явы, згаданыя ў выданні. Але менавіта гэтая натхняльная і практычная кніга дапаможа па-новаму паглядзець на асаблівасці беларускай культуры і паверыць у магчымасць паспяховага вырашэння самых розных задач.

## Як прывабіць у музей

**Падчас сустрэчы з беларускімі чытачамі Дэвід Пэрыш адказаў на мноства пытанняў. Адным з самых характэрных стала пытанне пра тое, як прывабіць наведвальнікаў на новую музейную выстаўку. Гісторыя, якую ў гэтым дачыненні распавёў брытанскі аўтар, будзе карыснай для прадстаўнікоў розных творчых прафесій.**

«Пра гэты выпадак я прачытаў некалькі гадоў таму ў бізнес-аглядзе, гэта сапраўдная гісторыя сімфанічнага аркестра невялікага горада ў штаце Нью-Ёрк Злучаных Штатаў Амерыкі. На канцэрты аркестра прыходзілі пераважна людзі сталага веку, моладзі было мала, і гэта занепакоіла дырэкцыю і кіраўнікоў аркестра: сталыя пацыху паміралі, а новых наведвальнікаў не дадавалася. У камітэце пачалі абмяркоўваць: што з гэтым рабіць? Нехта сказаў:

— Трэба прапаноўваць іншую праграму — больш лёгкую, больш даступную музыку.

Іншы дырэктар запярэчыў:

— Гэта немагчыма, бо наша спецыялізацыя — высокае мастацтва.

Кіраўнікі аркестра доўга спрачаліся і нават крычалі: справа жыцця, іх артыстычная місія была пад пытаннем. Зрэшты, нехта прапанаваў:

— Чакайце, давайце спытаемся ў публікі, чаму да нас не прыходзяць?

Супрацоўнікі аркестра правялі апытанне сярод моладзі:

— Ці прыйшлі б вы да нас, калі б мы гралі музыку больш лёгкую, больш простую для ўспрымання?

Сярод моладзі пераважаў такі адказ:

— Не, нам не патрэбна папулярная музыка, мы хочам прыходзіць і слухаць у вас Моцарта, Бетховена, Чайкоўскага.

— Чаму ж тады вы не прыходзіце?

— Таму што на ўсіх рэкламных плакатах, з якіх мы можам атрымаць уяўленне пра аўдыторыю вашага тэатра, мы бачым людзей сталага веку — публіку ў касцюмах і гальштуках. Калі мы прыйдзем у байках і джынсах, на нас паглядзяць зверху альбо палічаць дзівакамі. Некамфортна прыходзіць у тэатр, бо ўсё навокал занадта шыкоўнае.

Калі кіраўнікі аркестра выслухалі меркаванне патэнцыяльнай публікі, адразу змянілі плакаты. На рэкламе побач з джэнтльменамі сталага ўзросту ў касцюмах з бабачкамі з'явіліся прадстаўнікі моладзі ў джынсах і цішотках. Таму, калі вас непакоіць колькасць наведвальнікаў музея, трэба звярнуцца да сваёй аўдыторыі ці, дакладней, да тых, хто вашай аўдыторыяй яшчэ не з'яўляецца. Галоўнае — слухаць сваю публіку і ісці ёй насустрач, бо паспяховыя творчыя арганізацыі арыентуюцца ў першую чаргу на патрэбы кліента».

Алеся ЛАПІЦКАЯ



# БЕЗ ДАПАМОГІ ПЭНДЗЛЯ

## можа працаваць мастак Андрэй Сакалоў

Малады беларускі мастак, сябра Беларускага саюза дызайнераў Андрэй Сакалоў упершыню прадставіў свае творчыя кампазіцыі шырокаму колу аматараў мастацтва на выстаўцы «*Soma*», што дэманструецца ў арт-гасцёўні «Высокае места». Тут будзе цікава тым, хто здолее зразумець нязвыклае, абсалютна новае адлюстраванне пейзажу. Мастак не баіцца запрасіць гледача ў свой унутраны свет. Яму вельмі падабаецца гульня на кантрастах і эмоцыях, якая адбываецца не толькі паміж ім і яго творамі, але і паміж гледачом і кампазіцыямі!

Адукацыю аўтар атрымаў у Беларусі, аднак па творчы досвед паехаў у Маскву, дзе атрымалася пашырыць кругагляд. Ды вынік пераезду ў іншую краіну стаўся нечаканым: аўтар зразумеў, што працаваць хоча на радзіме.

— Вельмі люблю Беларусь, — прызнаецца мастак. — Менавіта тут мне хочацца ствараць. У Маскве атрымалася арганізаваць выстаўку, але пазіцыянаваў сябе як беларускі мастак. У сваёй краіне я змог атрымаць адукацыю, зразумеў, што такое мастацтва.

Разам з абстрактнымі пейзажамі на выстаўцы прадстаўлены мастацкія калажы аўтара, якія адметныя па задуме, арыгінальныя па кампазіцыйных рашэннях і цікавыя тэхнікай. Скрозь цёмныя плямы колеру, дакладную графіку ліній і мудрагелістыя ўзоры заўважаюцца новыя гарызонты бачання Андрэем Сакаловым навакольнай рэчаіснасці мінулага і будучыні.

— У творчасці я імкнуся перапрацаваць досвед мастакоў, творы якіх мяне натхняюць. Магу ўзяць за аснову фактуру, якая зафіксавана на палатне пэўных знакамітых аўтараў, і трансфармаваць яе, — рапавядае Андрэй Сакалоў. — Калаж для мяне — прадмет мастацтва, аналітычны працэс. Я заўсёды доўга разважаю над работай, магу некалькі тыдняў не дакранацца да палатна, думаць, як лепш адлюстраваць тое, што адчуваю. Атрымліваецца, што на тэхнічную частку працы ідзе значна менш часу. У галаве абавязкова павінен быць вобраз. Толькі тады разумееш, як спалучаць фактуры і колер.

Асаблівасць мастацкай тэхнікі Андрэя Сакалова ў тым, што падчас працы мастак не выкарыстоўвае пэндзлі. Усё стварае рукамі. Калі першапачаткова аўтар працаваў над калажамі, зразумеў: без лішніх прадметаў — больш зручна. Потым так атрымалася і з жывапісам.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Філасофія вайны і міру

## ў творчых кампазіцыях Сяргея Селіханава

**Сяргей Селіханаў — адзін з самых знакамітых прадстаўнікоў старэйшага пакалення беларускіх скульптараў, якія працавалі ў пасляваенныя гады. Ён увайшоў у чацвёрку самых вядомых скульптараў эпохі росквіту сацыялістычнага рэалізму ў мастацтве, сярод якіх Андрэй Бембель, Заір Азгур, Аляксей Глебаў. Сёлета спаўняецца 100 год з дня нараджэння таленавітага майстра. Унук Сяргея Іванавіча Канстанцін Селіханаў шмат часу працаваў над арганізацыяй юбілейнай выстаўкі, якая дэманструецца ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь.**

Лёс Сяргея Селіханава назваць лёгкім немагчыма. З самага дзяцінства скульптар ведаў, што трэба быць сапраўдным мужчынам, гаспадаром слова. У 1921 годзе, калі Сяргею Іванавічу было чатыры гады, памёр бацька, і сям'я апынулася ў складаным становішчы: з цягам часу ўсе клопаты сям'і мастак узяў на сябе. Яго лёс, безумоўна, не мог не адбіцца на характары, які, як адзначаюць блізкія і знаёмыя, быў складаным. Сфарміраваліся жыццёвыя прынцыпы, якія творца не парушаў сам і не дазваляў іншым.

— З Сяргеем Іванавічам мяне заўсёды звязвалі моцныя сяброўскія стасункі, — расказвае мастацтвазнаўца Барыс Крэпак. — Ён бываў у мяне дома, маляваў з майго акна Свіслач, тады яшчэ зарослую хмызнякамі. Маляваў фламастарамі. На жаль, малюнкаў у мяне не засталося. Калі б я тады ведаў, што пасля гэты малюнак будзе мець такое значэнне для мяне, для нашай гісторыі, то б, вядома, захаваў. Калі Сяргей Іванавіч бываў у гасцях, распавядаў пра вучобу, пра тое, як хацеў стаць жывапісцам. У 1933 годзе ён паступіў у Віцебскі мастацкі тэхнікум, які ў 1934-м стаў Віцебскім мастацкім вучылішчам і ў той час быў кузняй беларускіх мастакоў. У яго былі выдатныя настаўнікі, шмат навыкаў пераняў ад Івана Ахрэмчыка. А потым з жывапісца нечакана перакваліфікаваўся ў скульптара. Перад пачаткам вайны з'явіліся яго працы на Рэспубліканскай саюзнай выстаўцы. Ад званка да званка прайшоў франтавыя дарогі, вайну скончыў у маі 1945 года ў Празе. Ён любіў распавядаць пра сваё юнацтва, пра 1930-я гады, неаднойчы ўспамінаў родную Аршаншчыну, куды пераехалі пасля смерці бацькі і дзе пачаўся яго шлях на творчы Алімп. Ён быў энергічным, разумным, заўсёды казаў толькі праўду. Гэта чалавек-гісторыя. Хтосьці скажа, што Сяргей Іванавіч быў асобай са складаным характарам і вялікімі патрабаваннямі... Усё гэта так. Але ён любіў мастацтва, любіў краіну.

На пачатку творчага шляху Сяргей Селіханаў марыў стаць прафесійным жывапісцам. З шасці гадоў яго захапляла прырода, ён спрабаваў адлюстраваць яе ў сваіх малюнках. Сёння мастацтвазнаўцы часта адзначаюць, што аўтар не мог пісаць раўнадушна, кожны яго твор — асаблівая эмоцыя: радасць,



*Партрэт Героя Сацыялістычнай Працы, камбайнёра Надзеі Самсонавай, 1970 г.*

трывога альбо сумненне. Да паступлення ў тэхнікум малады чалавек не займаўся лепкай, і таму першыя яго спробы ў скульптуры былі нясмелыя, няўпэўненыя, але гэта праца падабалася. Майстар пачаў надаваць увагу скульптуры ў 1938 годзе, а ў 1940-м упершыню ўзяў удзел у мастацкай выстаўцы не як жывапісец і графік, а як скульптар. З тае пары з'явілася шмат планаў, але яны былі разбураныя вайной. Сяргей Іванавіч ваяваў у падраздзяленнях супрацьтанкавай артылерыі спачатку радавым салдатам, затым афіцэрам. Удзельнічаў у найбуйнейшых бітвах пад Масквой і Ржэвам, на Калінінскім і Варонежскім франтах, на Курскай дузе.

Тэму Вялікай Айчыннай вайны Сяргей Селіханаў пранёс праз усё жыццё. Не разумею, як сам застаўся жывым, як вынес тое, што бачыў на ўласныя вочы. Ды і на фронце мастак не забываў пра творчасць. Таму многія работы прасякнутыя такой шчырасцю. У творчасці аўтара ёсць як партрэты канкрэтных людзей, так і ўласцівыя савецкаму мастацтву зборныя вобразы сучаснікаў з характэрнымі гераічнымі рысамі эпохі.

Пасля дэмабілізацыі мастак працаваў над кампазіцыяй «За гонар сцяга», якая стала спробай аднаўлення формы скульптара. І ўсё атрымалася. Ідэй і задум было шмат, таму дастаткова хутка прыйшла вядомасць...

Работы, якія экспануюцца на выстаўцы, можна бачыць у розных кутках нашай краіны. Экспазіцыйную прастору складаюць каля пяцідзесяці твораў скульптуры і скульптурных эскізаў, 12 жывапісных і графічных твораў.



*Праект помніка народнаму паэту БССР Якубу Коласу, 1960 г.*

— Выстаўка да 100-годдзя Сяргея Селіханава — вялікая падзея, — адзначыў падчас адкрыцця выставачнага праекта скульптар, старшыня секцыі скульптуры Беларускага саюза мастакоў Аляксандр Шапо. — Сяргей Селіханаў — адзін з самых знакамітых беларускіх скульптараў, ветэранаў айчыннай скульптуры. Ён зрабіў неверагодны прарыў у галіне станковай скульптуры. Для пакалення маладых скульптараў Сяргей Селіханаў — чалавек, які праз усю творчасць пранёс рэха вайны, філасофію вайны і міру. Менавіта ён стварыў адну з самых значных работ у гісторыі беларускага манументальнага мастацтва — помнік у Хатыні, які вядомы ва ўсім свеце. Застаецца шчыра парадавацца, што справу працягвае не менш таленавіты ўнук, які з любоўю, педантычнасцю адабраў, давёў работы дзеда да ладу.

Багатая творчая спадчына Сяргея Селіханава каштоўная не толькі для беларускага мастацтва, але і для мастацтва іншых краін. Напрыклад, у Кітаі імя майстра прамаўляюць з гонарам: мастак падарожнічаў па кітайскай зямлі і ў выніку стварыў каля сарака партрэтаў прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі і простых людзей. Некаторыя з іх можна ўбачыць у экспазіцыі.

Увогуле, калі чалавек знаходзіцца каля пэўнага помніка, часам не заўсёды задумваецца пра яго сэнс і задуму аўтара, а гэта вельмі важны складнік асэнсавання работы, яе разумення. У творах Сяргея Селіханава можна адчуць перажыванні і клопат мастака за людзей, грамадства, краіну. Колькі сацыяльных мастацкіх праектаў ён стварыў... Чаго каштуюць кампазіцыі, праз якія аўтар дэманструе працу беларускіх шахцёраў. Канстанцін Селіханаў расказвае, што падчас арганізацыі экспазіцыі яму было складана разабрацца ў інтарэсах дзеда: занадта многа было тэм, якія ён хацеў увасобіць у творчасці. Таму і выстаўка атрымалася такой шматграннай, разнабаковай.

— Вельмі прыемна, калі на адкрыцці выстаўкі бачыш столькі неабыякавых людзей, — адзначае Канстанцін Селіханаў. — А значыць, у беларусаў захоўваецца патрэба ў вялікім мастацтве. Рыхтавалася гэтая выстаўка доўга: адны з самых старых работ патрабавалі невялікіх трансфармацыі. Працуючы над выстаўкай, я пераканаўся: у работах дзеда ёсць дэталі, якія належаць менавіта яму, яны нібыта сфарміравалі яго аўтарскі почырк, стыль. Цяпер я раблю альбом яго работ, сабраў успаміны сучаснікаў. Дарэчы, ні перад адной сваёй выстаўкай не хваляваўся так, як перад гэтым праектам. Тут усё значна глыбей: калі ты кажаш пра сябе, ведаеш, як зрабіць так, каб цябе зразумелі. У гэтым выпадку — гаворка пра справу сям'і, пра спадчыну, якая ёсць гонарам не толькі Селіханавых, але і ўсёй краіны.

**Вікторыя АСКЕРА**

# СВЯТА МЕЛЬПАМЕНЫ

**Вялікае каханне, незвычайныя прыгоды, бляск багацця, эмацыянальная насычанасць ды эстэтычная прыгажосць — усё, чаго прагнуць людзі на працягу стагоддзяў, пакінула адбітак на тэатральным мастацтве. У храме Мельпамены знойдзецца прынада нават для самага спакушанага гледача. Тут пануюць дабро і зло, каханне і рэўнасць, вернасць і здрада, багацце і беднасць, мара і рэчаіснасць, жыццё і смерць. Нават тэатральная будзённасць насычаная падзеямі: дробязі, якія чалавек часам не заўважае ў звычайным жыцці, пад святлом рампы ператвараюцца ў важкія прыступкі на лёсавызначальным шляху. Тэатр дорыць нам свята кожны дзень, але ж і ён мае персанальную чырвоную дату ў календары. Сусветны дзень тэатра адзначаўся 27 сакавіка.**

З нагоды прафесійнага свята Беларускі саюз тэатральных дзеячаў зладзіў урачыстую вечарыну. У памяшканні Драматычнага тэатра беларускай арміі сабраліся рэжысёры, акцёры, драматургі ды іншыя майстры тэатральнага цэху. Асноўнай падзеяй вечара стала традыцыйнае ўручэнне ўзнагарод ад Беларускага саюза тэатральных дзеячаў. Сёлета галоўны прыз «Крышталёвая Паўлінка» атрымалі адразу два выбітныя прадстаўнікі тэатральнай грамадскасці: народная артыстка СССР, знакамітая оперная спявачка Тамара Ніжнікава і заслужаны артыст Беларусі Барыс Барысёнак.

У камернай атмасферы імпрэзы, дзе артысты добра ведаюць адзін аднаго, атрымаць крышталёвую статуэтку каштоўна ўдвая. Ганаровая адзнака ад калег па цэху мае асаблівае значэнне: любоў і павага тэатралаў самі па сабе ўжо вялікая ўзнагарода. За дваццаць пяць год існавання Беларускага саюза тэатральных дзеячаў выбітныя прадстаўнікі тэатра атрымліваюць узнагароды ў 24-ы раз.

Прэмія «Крышталёвая Паўлінка» ўпершыню з'явілася ў 1992 годзе. Нягледзячы на тое, што «Паўлінак» у іншыя гады ўручалі па дзве, а ў юбілейны 20-ы год — нават тры, лаўрэатаў добра ведаюць і памятаюць. Уладальнікі прэміі — мэтры тэатральнага майстэрства Расціслаў Янкоўскі, Генадзь Аўсяннікаў, Стэфанія Станюта, Наталля Гайда, Валерый Раеўскі ды іншыя — глядзелі на гасцей імпрэзы з фотаздымкаў, што мільгалі на сцэне Драматычнага тэатра беларускай арміі. Сёлета ў славуты тэатральны шэраг увайшлі не менш годныя прадстаўнікі сцэнічнага мастацтва. Тамара Ніжнікава — народная артыстка СССР, уладальніца ордэна Францыска Скарыны (2001 год), ганаровы прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі. Сваю ўзнагароду оперная спявачка атрымала загадзя: прадстаўнікі Беларускага саюза тэатральных дзеячаў даставілі статуэтку Тамары Ніжнікавай асабіста. На сцэну па «Паўлінку» падняўся вядучы майстар сцэны Барыс Барысёнак — заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, які працуе ў Тэатры юнага гледача з 1956 года. За гэты час акцёр паўставаў перад гледачамі больш як у 90 амплуа.

«Крышталёвых кветак» — узнагарод за самы яркі дэбют — сёлета таксама дзве. У адрозненне ад «Крышталёвай Паўлінкі», паведамляе старшыня БСТД Аляксей Дудараў, уручыць адразу дзве «Кветкі» не планавалася. Падчас галасавання на пасяджэнні рады Беларускага саюза тэатральных дзеячаў галасы камісіі тройчы размеркаваліся пароўну паміж двума маладымі артыстамі. У выніку «Крышталёвая кветка» патрапіла да артысткі-вакалісткі Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага музычнага тэатра, лаўрэата міжнароднага конкурсу Вольгі Жалезкай ды акцёра Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Паўла Еўтушэнкі.

Кажуць, той, хто атрымлівае «Крышталёвую зорку» (узнагароду за вялікі ўнёсак у развіццё тэатральнага мастацтва), у хуткім часе атрымлівае і ганаровае званне. Так гэта ці не, можна будзе прасачыць на прыкладзе лаўрэата «Крышталёвай зоркі» 2017 года акцёра Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя М. Горкага Валерыя Шушкевіча, уладальніка медаля Францыска Скарыны (2014 год) і нагруднага знака Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь «За ўнёсак у развіццё культуры Беларусі» (2011 год).

— Лялечны тэатр — гэта пачатак тэатральнага мастацтва. Ён з'явіўся тады, калі чалавек толькі пачынаў перакладаць свае пачуцці на рэчы, лялькі, — выказаў думкі перад аб'яўленнем апошняй намінацыі Аляксей Дудараў. — Артысты тэатра лялек выходзяць на сцэну як драматычныя акцёры, часам спяваюць, танцуюць і да таго ж яшчэ даюць жыццё лялькам.



Лаўрэаты ганаровых узнагарод ад Беларускага саюза тэатральных дзеячаў і Міністэрства культуры Беларусі.

Фота БелТА.

Узнагароду «Крыштальны анёлак», заснаваную спецыяльна для работнікаў лялечных тэатраў прыкладна 10 год таму, уручылі вядучаму майстру сцэны, акцёру Беларускага тэатра «Лялька» Алегу Рыхтэру. Алег Рыхтэр са сцэны павіншаваў усіх калег-лялечнікаў з мінулым святам (21 сакавіка адзначылі Міжнародны дзень тэатра лялек) і згадаў імёны тых, хто дапамагаў яму на творчым шляху.

Павіншаваў тэатральных дзеячаў са святам і міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў. Ён выказаў падзяку артыстам праз адмысловыя ўзнагароды: нагрудныя знакі, граматы, прэміі і кветкі. Сярод уганараваных — прадстаўнікі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра Янкі Купалы, Магілёўскага абласнога тэатра лялек, Мінскага абласнога драматычнага тэатра.

Але не для ўсіх тэатралаў уручэнне прэмій стала днём без працы. Цяжка ўявіць Дзень тэатра без спектакляў, таму на працягу ўсёй імпрэзы для гасцей Драматычнага тэатра беларускай арміі выступаў тэатр-студыя «7ПАВЕРХ» пад кіраўніцтвам Зінаіды Пасюцінай.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



**Старшыня рэспубліканскага грамадскага аб'яднання «Беларускі саюз тэатральных дзеячаў» драматург Аляксей ДУДАРАЎ:**

— Сусветны дзень тэатра — наша свята, дзень тых, хто па вызначэнні святаў не мае, для каго любое свята — гэта праца, праца і яшчэ раз праца. Вялікі Шэкспір калісьці сказаў: «Увесь свет — тэатр, і людзі ў ім — акцёры». Цытата сведчыць пра пазітыўнае стаўленне геніяльнага чалавека да свету, да людзей і ўвогуле да жыцця, бо сапраўднае можна знайсці толькі на сцэне. Сапраўднае каханне, сапраўдны боль, існая вера, любыя моцныя пачуцці існуюць пад святлом рампы. Нават злодзеі ў тэатры пазітыўныя, бо мастацтва дае ім шанц на раскаянне альбо выносіць заслужанае пакаранне. І самае галоўнае — глядач у тэатры амаль заўсёды ведае, дзе чорнае, а дзе белае, дзе дабро, а дзе зло. Будзьма дапамагаць яму ў гэтым складаным выбары годнай працай!



**Міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс СВЯТЛОЎ:**

— Сусветны дзень тэатра — міжнароднае свята. Сёння мы знаходзімся ў асяроддзі тэатраў з усяго свету, і нашая апошняя здабытак — таму сведчанне: напрыклад, вельмі цікавы, выбітны Міжнародны моладзевы тэатральны форум «М.@rt.кантакт-2017», які толькі што адбыўся ў Магілёве. На форуме ў Беларусі разам з нашымі калектывамі стварылі вялікае мастацтва тэатра трупы з 10 краін свету.

Цягам года я з вялікім задавальненнем наведваў прэм'еры і атрымліваў асалоду ад спектакляў, якія ставіліся ў тэатрах нашай краіны. Тая рэчаіснасць, што ёсць на сцэне, — гэта сапраўднае жыццё. У XXI стагоддзі мы карыстаемся тэхнічнымі прыладамі накшталт камп'ютара, але ўсё, што датычыць віртуальнай рэальнасці, існавала стагоддзі таму. Іншая рэальнасць нашага жыцця прысутнічала дзякуючы тэатру. Гэта вельмі высокае і старадаўняе, але ж сучаснае і актуальнае мастацтва.

## Мовай лічбаў

Сусветны дзень тэатра — міжнароднае свята, якое адзначаецца 27 сакавіка. Віншаванні атрымліваюць драматургі, рэжысёры, акцёры, мастакі-пастаноўшчыкі, гукарэжысёры, мастакі па святле, прадзюсары, манціроўшчыкі дэкарацый і нават гардэробшчыкі: вядома, што «тэатр пачынаецца з вешалкі». Свята, зацверджанае ў 1961 годзе па ініцыятыве Міжнароднага інстытута тэатра пры ЮНЕСКА, мае нават асабісты дэвіз: «Тэатр як сродак узаемаразумення і ўмацавання міру паміж народамі», бо ў мовы мастацтва няма нацыянальных абмежаванняў. Дзень тэатра — свята не толькі тэатральных работнікаў, але і гледачоў, якія цікавяцца падзеямі ў «храме Мельпамены». Спецыяльна для іх Нацыянальны статыстычны камітэт падрыхтаваў статыстычны агляд тэатральнага жыцця Беларусі да Сусветнага дня тэатра.

Паводле Белстата, напрыканцы 2016 года, абвешчанага Годам культуры, для беларусаў і замежных гасцей у краіне працавалі 28 прафесійных тэатраў: 19 — у драматычным і музычным кірунках, 8 спецыялізаваліся на спектаклях для дзяцей і юных гледачоў і толькі адзін тэатр паказваў оперу і балет. Тэатральная геаграфія размеркавалася так: па два прафесійныя тэатры — на тэрыторыі Віцебскай і Мінскай абласцей, па тры — у Гродзенскай і Магілёўскай і па чатыры — у Брэсцкай і Гомельскай абласцях. Сталіца ж мае ажно 10 прафесійных тэатраў.

У Год культуры творчыя калектывы прафесійных тэатраў зладзілі больш за 9 тысяч спектакляў, канцэртаў, творчых вечароў. Адметна, што амаль трэцяя частка з іх прыпала на мінскія калектывы. Рэпертуар тэатраў у мінулым годзе складаўся з 970 пастановак. Асаблівы напрамак тэатральнага мастацтва — спектаклі для дзяцей. Летась 42,3% (410 пастановак) ад усяго тэатральнага рэпертуару — гэта дзіцячыя спектаклі.

Як адзначана на сайце Белстата, «тэатральнае мастацтва займае адно з найважнейшых месцаў у культурным жыцці краіны, і цікавасць да яго не змяншаецца». Летась тэатры Беларусі наведалі 1 710,6 тысячы гледачоў. Заўважна, што амаль палова наведвальнікаў прыпадае на мінскія тэатры. Асаблівай папулярнасцю карыстаюцца Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі (239,7 тысячы наведванняў), Беларускі дзяржаўны акадэмічны музычны тэатр (137,6 тысячы), Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя М. Горкага (83 тысячы), Магілёўскі абласны тэатр драмы і камедыі імя В. І. Дуніна-Марцінкевіча ў Бабруйску (69,1 тысячы) ды Нацыянальны акадэмічны драматычны тэатр імя Я. Коласа ў Віцебску (66,1 тысячы наведванняў). Згаданыя тэатры — пяцёрка лідараў па колькасці наведванняў сярод прафесійных тэатраў Беларусі ў мінулым годзе.

Для папулярызацыі тэтральнага мастацтва, наладжвання стасункаў паміж беларускімі і замежнымі калектывамі, для абагульнення сцэнічных дасягненняў і вызначэння лепшых дзеячаў у сферы тэатра ў нашай краіне ладзяцца Рэспубліканскі конкурс тэатральнага мастацтва «Нацыянальная тэатральная прэмія», Міжнародны форум тэатральнага мастацтва «ТЭАРТ», Мінскі міжнародны Калядны оперны форум, Міжнародны моладзевы форум «М.@rt.кантакт», Міжнародны фестываль студэнцкіх тэатраў «Тэатральны куфар», Міжнародны калядны фестываль батлеечных ды лялечных тэатраў «Нябёсы» ды шмат іншага.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

## З ДУМКАМІ ПРА СУСВЕТ




**Ёсць з'явы, якія хочацца бачыць яшчэ і яшчэ. «Паўночнае ззянне» — адна з такіх. Фестываль кіно паўночнаеўрапейскіх краін існуе ў Беларусі з 2015 года, сёлета ён адбудзецца з 19 па 25 красавіка ў мінскім і з 20 па 25 красавіка ў віцебскім кінатэатрах «Мір».**

За два гады існавання «Паўночнае ззянне» можа пахваліцца вялікай колькасцю прыхільнікаў: паказы наведала больш як 5 тысяч чалавек. За гэты ж час былі арганізаваныя 25 воркшопаў і лекцый, прыехала 10 міжнародных гасцей. Штогод у кінафестывалі ўдзельнічаюць сапраўдныя прафесіяналы кінематографа: у Беларусь ужо завіталі дацкі рэжысёр Оле Хрысціян Мадсан, які працуе на канале HBO ў ЗША, заснавальнік фінляндскага кінафестывалю *DocPoint* Арта Халанэн.

Падчас «Паўночнага ззяння» наталіцца кінематографам змогуць не толькі кінааматары, але і беларускія рэжысёры. Спецыяльна для іх арганізатары прадугледзілі магчымасць абмену досведам і ідэямі: цікавыя паказы, лекцыі, майстар-класы. У гэтым дапамагаюць і госці фестывалю, якія прадстаўляюць тут свае стужкі і ладзяць воркшопы.

Сёлета найноўшыя гульнявыя і дакументальныя фільмы прадставяць восем паўночнаеўрапейскіх краін. Да кінематаграфічнай мапы фестывалю далучыліся тры краіны Балтыі — Літва, Латвія і Эстонія. Акрамя іх, традыцыйна ў «Паўночным ззянні» ўдзельнічаюць Швецыя, Фінляндыя, Нарвегія, Данія і Ісландыя. Павялічыцца і колькасць стужак: замест васьмі карцін — чатырнаццаць, дзякуючы якім гледачы змогуць пазнаёміцца з менталітэтам жыхароў Паўночнай Еўропы.

Сёлетняе «Паўночнае ззянне» прадставіць кінааматарам «сусвет унутры» — менавіта гэты слоган стваральнікі выбралі для размовы з гледачом на мове кіно. Фільмы пра людзей, іх унутраны стан, пачуцці і развагі, асаблівасці — у фокусе фэсту. Арганізатары перакананы, што не толькі чалавек — гэта цэлы сусвет, але і «Паўночнае ззянне» — адмысловы сусвет унутры кампактнага кінафестывалю.

Мерапрыемства зноў зладзяць пры падтрымцы Офіса Савета Міністраў паўночнаеўрапейскіх краін у Літве, пасольстваў і інстытутаў кіно краін-удзельніц. Цяпер стваральнікі актыўна рыхтуюцца да фестывалю, а на пачатку красавіка абвесцяць праграму паказаў і майстар-класаў ад вядомых кінематаграфістаў Паўночнай Еўропы.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# БЕЗ ПАДМАНУ

## Новая хваля беларускага кароткага метра

**Калі чалавек выказваецца, галоўнае для яго — быць пачутым. Тое ж самае і з кіно. Здаецца, тут трэба быць убачаным, але зрок зрокам, а рэжысёра трэба ўмець пачуць. Рэжысёр спрабуе паразмаўляць з гледачом, нешта давесці яму ці, наадварот, атрымаць параду. Кінематограф — у першую чаргу дыялог і спроба дастукацца да аўдыторыі. Часам — доўгімі спробамі, часам — кароткімі метрамі.**

Меркаванняў наконт кароткаметражак хапае. Адны кажуць, што гэта — пачатак шляху, так званая трэніроўка для рэжысёра, які невялікімі стужкамі проста набівае руку. Але многія кінематаграфісты лічаць інакш: зняць фільм з невялікім хронаметражом — складаная праца, бо няма магчымасці нешта расцягнуць, трэба ювелірна выбіраць дэталі і ўключаць у сюжэт толькі тое, што сапраўды закране. Беларускія рэжысёры гэтую задачу ў большасці вырашаюць, але мяжы дасканаласці няма — заўсёды ёсць чаму вучыцца!

Гэта лёгка заўважыць і па сёлетняй праграме фестывалю *Cinema Perpetuum Mobile*: ёсць работы ўжо вядомых кінематаграфістаў, а ёсць стужкі, якія здымаліся, хутчэй за ўсё, наогул для сябе. Але і першыя, і другія будуць аднолькава карысныя для гледача: асэнсаванае, складанае кіно і дэбютныя работы прадставяць панараму маладога айчыннага кіно. Дарэчы, яна насычаная: дакументальныя, ігравыя, эксперыментальныя стужкі — сёння рэжысёрам цікава быць на мяжы мастацтваў, і з такімі творамі пазнаёміцца неабходна!



*Кадр з фільма «Тата» (рэж. Нэла Васілеўская).*

Кароткаметражнаму кіно ўласцівая неверагодная рыса: тут вельмі цяжка хлусіць. Падман адразу выкрываецца, рэжысёр губляе ўвагу гледача, а само кіно асуджанае на правал. Але са шчырасцю ў нашых кінематаграфістаў усё ў парадку — многія фільмы пакідаюць развагі яшчэ на некалькі дзён. Асабліва гэта тычыцца дакументальнай праграмы. Тут і нашумелы фільм «Тата» Нэлы Васілеўскай, і «Кожная трэцяя» Аляксандра Васюковіча, і «Ачаг» Арсенія Ільіных...

«Тата» сёлета ўдзельнічаў у конкурсе нацыянальных кінашкол на «Лістападзе» (прадстаўляў БДАМ), атрымаў Гран-пры на Адкрытым фестывалі дакументальнага кіно ў Маскве «Милосердие.doc», і гэта толькі пачатак гісторыі фільма. Ужо шмат сведчанняў таму, што айчынныя рэжысёры любяць, а галоўнае, умеюць, выказвацца на сур'ёзныя тэмы не менш сур'ёзнымі кінакарцінамі. Гісторыя «Таты» Нэлы Васілеўскай асабістая: рэжысёр прапанавала гледачу зазірнуць у жыццё яе сям'і. На ўласным прыкладзе Нэла вырашыла навучыць публіку ўглядацца ў свае гісторыі, шукаць у сям'і праблемы і спрабаваць вырашыць іх. Фільм уздымае адну з вечных і складаных праблем — бацькоўскай старасці. «Тата» — нагода задумацца, што рабіць у той сітуацыі, у якой апынулася гераіня фільма і як падтрымаць роднага чалавека?.. Сапраўды філасофская, складаная і моцная дакументальная стужка Нэлы Васілеўскай дапаможа знайсці правільны адказ.

Яшчэ адно сур'ёзнае кіно — «Кожная трэцяя». Ужо не першае і дакладна не апошняе пра хатні гвалт у нашай краіне, але зробленае дакладна па-майстэрску: уключае элементы фота, заснавана на дыялогу гераінь з гледачом. Жанчыны ў стужцы шукаюць дапамогі, падтрымкі ці хаця б добрых слоў. Пакуль праблема, з якой сутыкнуліся гэтыя жанчыны, не вырашана — пра яе ўжо казалі кінематаграфісты з Майстэрні сацыяльнага кіно. З дапамогай кінематографа глядач паглыбіцца ў сітуацыю і, магчыма, знойдзе штуршок да вырашэння пытання.

Арсеній Ільіных — яшчэ адзін прадстаўнік Акадэміі мастацтваў, а яго фільм «Ачаг» — гісторыя мастака Аляксея Несцерава. Стужкі пра беларускіх мастакоў у нас ёсць, але іх можна пералічыць па пальцах. Тым больш «Ачаг» — гэта свайго роду «трып» у жыццё маладога мастака, экскурсія па паўсядзённасці, працы, хобі, наваколлі. Камера ідзе следам за Несцеравым, калі ён піша карціны, паліць, спявае ў падземным пераходзе на плошчы Леніна, шпацыруе па скверы Адама Міцкевіча. Словам, псіхалогія жыцця і творчасці, спалучэнне ўнутранага і знешняга, адносіны мастака і горада, — кіно шматграннае і багатае.

Яшчэ тры дакументальныя знаходкі — фільмы «Маша», «Востраў малака» і «Музыка пад Брайлем». Пра незвычайную традыцыю ў Друі распавядае «Востраў малака» Сяргея Гудзіліна: жыхары гэтага невялікага аграгарадка з вясны да восені пасвяць сваіх кароў на востраве, які знаходзіцца акурат на беларуска-латвійскай мяжы. Кожны дзень людзі здзяйсняюць па некалькі падарожжаў на востраў — за малаком. Здавалася б, нічога звышнатуральнага ў гэтай гісторыі няма, але тут і знаёмства з зусім іншай беларускай традыцыяй, прымежжам, калі хочаце, культурай.

Стужкі «Маша» (рэжысёры Арцём Гарбацэвіч і Ірына Арахноўская) і «Музыка пад Брайлем» Вольгі Пятровай — крыху іншыя. Гэта асабістыя мапы-гісторыі людзей. Маша — хворая на рак дзяўчына, у жыцці якой засталіся толькі маці, каханы і мара з'ездзіць у Галандыю. Рэжысёр шукае да гераіні адмысловы падыход, і дзякуючы гэтаму адбываецца нетрывіяльны, глыбокі дыялог Машы і гледача, нейкае разуменне, чаго ж чакае і хоча хворы чалавек і што нават песімістычны канец не прадугледжвае... страты надзеі! У «Музыцы пад Брайлем» героем стаў маленькі хлопчык, які не бачыць, але выдатна чуе і ўмее слухаць. У яго няма так званага бесклапотнага дзяцінства, але герой знаходзіць новае гучанне свайго жыцця: неверагодны талент спевака! Данік спявае на любой мове, у любым выпадку, ірвецца на сцэну нават хворы. Адданасць хлопчыка любімаму занятку натхніла рэжысёра.

Акрамя стужак дакументальных, у праграме ёсць і фільмы ігравыя — «Адамаў яблык» Алены Ясінскай, удзельнік фестывалю мабільнага кіно «Адз1н» Валерыя Навічкова пра тое, якім можа быць беларускае вяселле, і яшчэ адзін фільм гэтага аўтара «Кри-он-офф» — фантазія на тэму будучыні, замарозкі людзей і іх падману. Шмат увагі маладыя рэжысёры надаюць і адлюстраванню свайго характару, інтарэсаў і забаў у кіно. Напрыклад, падчас прагляду фільма «Ума-муму» можна на некалькі хвілін паглыбіцца ў вечарыны, на якіх бавіць час моладзь: тут і невядомыя кватэры, і такія ж невядомыя людзі, і змаганне з сумам. А вось «Фактура» — ужо зусім пра іншыя інтарэсы: сябры здымаюць фільм. У гэтай стужцы глядач убачыць, што такое несур'ёзнае стаўленне да кінематографа як прафесіі, што «патрэбна» для здымак фільма і атрымання той самай фактуры, якой хочацца.

Арганізатары фестывалю не забываюцца, што мы жывём у эпоху «кліпавага мыслення», менавіта для такіх работ вылучылі і спецыяльную катэгорыю — «*Belaruski no wave*» («Беларуская новая хваля»). Тут аўдыторыю чакаюць візуалізацыі, якія не адносяцца да дакументальнага ці ігравога кіно, бо спалучаюць некалькі тэхнік. Нейкую агульную назву ўсім работам даць немагчыма — тут ёсць і музычныя кліпы, і эпізоды серыяла, і нешта накшталт рэкламы. «*Denomination*» — цікавая рэакцыя на дэнамінацыю: у кадры — касманаўт, а побач скачуць зайчыкі, вавёрачкі і іншыя лясныя жыхары. Быццам відэа, знятае на Марсе, не інакш. «*Imprints*» — пераскокі з цемры ў свет, рэнтгенаўскія прамяні, удары току, «283 жабы» — фотаздымкі жаб, якія ствараюць ілюзію руху. Наогул, распавесці, пра што гэтыя відэа — вельмі цяжка ды, здаецца, іх канцэпт гэтага не прадугледжвае.

Трапілі ў праграму і два кліпы беларускіх гуртоў: відэа «электроннай прынцэсы» Беларусі *Mustelide* «Рахат Лукум» і кліп гурта *The Glitchhh* «*Trap*». Па словах арганізатараў, яны выбіралі тыя кліпы, дзе музыка і відэашэраг маюць аднолькавае значэнне, дапаўняюць адзін аднаго. Менавіта таму гэтыя відэа глядзець яшчэ цікавей: спалучэнне гуку і візуалізацыі дае адчуванне неверагоднай паглыбленасці ў стужку.

Многія з работ, прадстаўленых на CPM, неідэальныя. Для многіх яны першыя, але і гэта не апраўданне: зрабіць кароткаметражнае кіно — задача сапраўды нялёгкая. Але кожная стужка — новы досвед, як для рэжысёра, так і для гледача: пазнаёміцца з айчыннай дакументалістыкай, даведацца, што ж такое беларуская новая хваля, атрымаць асалоду ад роднай музыкі і кліпаў. Менавіта гэтым кароткі метр і карысныя: хуткае, але нічым не горшае за поўнаметражнае, падарожжа ў свет невядомага нацыянальнага кінематографа.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Марына ВАСІЛЕЎСКАЯ:
# «Слухач адразу заўважае штучнае на сцэне»

**Сёння ў Беларускай дзяржаўнай філармоніі незвычайны канцэрт: рок-гурт «*Denver*», Нацыянальны аркестр Беларусі імя І. Жыновіча і яго салістка Марына Васілеўская распавядуць на мове музыкі пра сусвет. Падзея для філармоніі сапраўды ўнікальная, як і спалучэнне твораў. Для Марыны Васілеўскай гэта ўжо чацвёртая сольная праграма ў кар'еры і 11-ы год працы ў філармоніі. Спявачка атрымала Гранд-прэмію спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі, прадстаўляла Беларусь на Міжнародным фестывалі «Славянскі базар у Віцебску» ў 2006 годзе і стала лаўрэатам спецыяльнай прэміі імя У. Мулявіна. Думкамі наконт беларускай песні, публікі і любімага аркестра артыстка падзялілася з «ЛіМам».**

**— Вы спяваеце з жывым аркестрам. Падчас такіх выступленняў большая адказнасць?**

— Усё маё жыццё звязанае з музыкай, менавіта таму я не лічу спевы з аркестрам нечым звышнатуральным. Калі музыка — гэта прафесія, а не хобі, калі яна прыносіць задавальненне, то жывы гук ніякай фанаграмай не заменіш. Я вельмі шчаслівая, што ў мяне ёсць магчымасць спяваць у суправаджэнні аркестра, бо калі за тваёй спінай на сцэне — 45 чалавек, гэта ні з чым не параўнальнае пачуццё: я заўсёды адчуваю іх дапамогу і падтрымку.

**— Акампанемент якога з інструментаў больш даспадобы?**

— Любімы інструмент цяжка вылучыць. Гэта тое ж самае, як вызначыцца з песняй, якая падабаецца больш за ўсё. Для мяне адказаць на гэтае пытанне немагчыма, бо кожны музычны інструмент унікальны і непаўторны. Я люблю, калі спалучаецца несапраўднае — народныя інструменты і рок-музыка, гэта дае асаблівы каларыт. Музыка, якую я выконваю, не прадугледжвае нейкага адзінага акампанементу — можна і пад гітару, і пад раяль, але ў маім выпадку абавязкова павінны быць тры складнікі: ударныя, бас-гітара і гітара, а калі яшчэ і клавішы — гэта наогул ідэальны склад, пад які спяваць вельмі прыемна.

**— Як прафесійны артыст працуе над голасам?**

— Рэцэпт даволі просты. Асабіста мне дапамагае... сон: голасу патрэбен адпачынак! Перад канцэртам спрабую абмяжоўваць сябе ў размовах і рэпетыцыях, бо жывы гук — адказнасць: трэба вытрымаць два аддзяленні канцэрта разам з аркестрам. Што датычыць рэпетыцый, нічога асаблівага. У нашым аркестры ўсе прафесіяналы, нават на рэпетыцыях музыканты схопліваюць усё імгненна, таму з такой камандай працаваць над голасам вельмі лёгка.



**— Вы дыпламант міжнародных музычных фестываляў, удзельніца многіх конкурсаў. Часам конкурсныя артысты згасаюць. Як гэтага пазбегнуць?**

— Адказ банальны: трэба працаваць кожны дзень, ствараць новыя песні, удзельнічаць у праектах і, канечне, распавядаць пра сваю працу і творчую дзейнасць. У мяне, напрыклад, ніколі не было на мэце толькі ўдзельнічаць у конкурсах — цяпер такія артысты ёсць. Для мяне конкурсы — дадатак да творчага жыцця, так я трымаю сябе ў тонусе.

**— Да беларускай эстрады сёння ставяцца скептычна...**

— Сама не ведаю, адкуль такое грэбаванне, але, думаю, справа ў менталітэце. Маўляў, замежнае — лепш. У мяне вялікі досвед падарожжаў у іншыя краіны, таму магу сказаць дакладна: неразумна лічыць, што дзесьці лепш. Такое меркаванне перашкаджае нашым артыстам. З гэтай праблемай трэба змагацца, прывучаць заўважаць і паважаць роднае. Думаю, варта ўздымаць рэйтынг беларускіх артыстаў. Як? Напэўна, прасоўваннем тых, у каго ёсць голас, адукацыя, перамогі на конкурсах. Канечне, гэта складана і патрабуе выдаткаў. Але калі паглядзець на афішы, то заўважым у асноўным замежных артыстаў, у прасоўванне якіх, у адрозненне ад беларускіх спевакоў, укладзеныя вялізныя сродкі. Яшчэ і з гэтай прычыны мы менш вядомыя і менш запатрабаваныя. Вельмі хацелася б, каб у Беларусі добразычліва ставіліся да айчынных артыстаў, каб падтрымлівалі.

**— Што ў рэпертуары аркестра імя Жыновіча? Ці ёсць творы, асабліва вам блізкія?**

— Многія ведаюць пра існаванне аркестра імя Жыновіча, але, бывае, заўчасна робяць заключэнні тыпу: «гэта нашы, а значыць, нічога цікавага не будзе». Але калі я запрашаю такіх людзей на канцэрты, пасля чую словы падзякі, гучаць водгукі ўжо зусім іншыя! На жаль, айчынная публіка схільная да скептычнасці. Хоць у нашага аркестра незвычайна разнастайны рэпертуар: сусветныя хіты, джазавыя творы, абавязковы складнік — беларускія песні, бо менавіта народнае — аснова ўсяго. Дарэчы, ёсць праграма пад назвай «Мы можам усё» — думаю, гэтыя словы дакладна адлюстроўваюць магчымасці калектыву. У нас шмат песень беларускіх кампазітараў, і, насамрэч, гэта мой любімы рэпертуар — тут і душа, і мелодыя Беларусі.

**— У рэпертуары аркестра ёсць і вашы песні. А якой музыкай натхняецеся, каб стварыць нешта сваё?**

— Натхненне, дарэчы, шукаю не ў музыцы, а ў прыродзе. Вельмі люблю падарожнічаць, ды не забываюся пра музыку. Падчас вандроўкі ў Індыю выканала некалькі джазавых песень. Гэта другі пункт майго натхнення: джазавая песня інтэрнацыянальная, яе зразумее кожны. Наогул, лічу, што ў музыцы шмат адказаў на вечныя пытанні: гэта размова паміж інструментамі, гэта дыялог музыканта і гледача.

**— Сярод аўдыторыі філармоніі — слухачы падрыхтаваныя. А якая публіка вам падаецца самай патрабавальнай?**

— У філармоніі ўжо сфарміраваная публіка. Канечне, гэта студэнты спецыяльных універсітэтаў, людзі, набліжаныя да такой музыкі, так званы прафесійны слухач. Ёсць тыя, для каго паход у філармонію — традыцыя. І гэта выдатна, бо існуе за патрабаваннямі публікі і падладжвацца пад густы моладзі прафесійныя калектывы не павінны: наша задача — уздымаць культурны ўзровень аўдыторыі, дарыць мастацтва. Гэта як вынайсці ровар — канечне, было б прасцей рухацца за публікай, але мы аддаём перавагу больш складанаму шляху. Мяркую, калі артыст шчыры са слухачом, ён заўсёды знойдзе водгук. Напрыклад, калі мы ездзім у маленькія гарады ці вёскі, я бачу: там даволі патрабавальная публіка — гэта вельмі адкрытыя людзі, якія адразу заўважаюць падробкі і штучнасць на сцэне. Для замежнага слухача нашы песні — наогул экзотыка, там заўсёды рэагуюць цёпла і вельмі любяць тыя традыцыі, якія мы з сабой прывозім.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

## ФАЛЬКЛОРНАЕ

Адзначыць двайны юбілей прапануе «Палац» 4 сакавіка. Гурту спаўняецца 25 гадоў, а яго нязменнаму лідару Алегу Хаменку, які лічыць, што 25 — невялікі ўзрост для калектыву, — 50. Гісторыя легендарнага гурта пачалася яшчэ ў 1987 годзе — тады Хаменку запрасілі ў паўпрафесійны калектыў «Палац». З таго часу ў рэпертуары калектыву з'явіліся хард-рокавая праграма, а паралельна музыканты працавалі як кавер-бэнд і стваралі ўласны матэрыял. Сёння «Палац» вядомы неверагодным спалучэннем фолку з сучаснымі музычнымі кірункамі, да таго ж менавіта гэты гурт стварыў новы стыль у музыцы: на пачатку 1990-х дзякуючы музыкантам з'явіўся фолк-мадэрн — артысты сталі аб'ядноўваць народныя песні з сучасным гучаннем. За плячыма калектыву — 8 альбомаў, выступы на шматлікіх фестывалях, а ў 1993 годзе гурт трапіў у дзясятку лепшых ансамбляў Усходняй Еўропы. У гонар свайго юбілею «Палац» збярэ на канцэрце ўсіх, хто так ці інакш меў дачыненне да яго творчасці, — вось такі невялікі сюрпрыз для гасцей.

## АРГАННАЕ

Белдзяржфілармонія пазнаёміць з шэдэўрамі сусветнага арганнага мастацтва 6 красавіка. Публіка пачуе творы Баха, Гендэля, Франка, П'ернэ, Дзюпрэ, Відара, Барбера, В'ерна, Фарэ, у тым ліку «Сіцыліну», «У ясную ноч», «Вестмінстарскія званы», Арыі Марганы і Клеапатры. І гэта не поўны спіс. Наталіцца арганнай музыкай прапануюць Лука Гадэлія і Крысціна Эшба. Лука Гадэлія — вядомы арганіст, лаўрэат фестываляў і конкурсаў, саліст Абхазскай дзяржаўнай філармоніі, выступаў у многіх краінах Еўропы. Музыкант вызначаецца асаблівым эмацыянальным напалам і псіхалагізмам, выдатнымі інтэрпрэтацыямі, павагай да традыцый. Музыказнаўцы адзначаюць, што слухачы ніколі не застаюцца абыякавымі да музыкі, якую выконвае Гадэлія. Крысціна Эшба — уладальніца каларатурнага сапрана, дыпламант Міжнароднага конкурсу імя М. Магамаева, дзе яна раскрылася не толькі як класічная, але і эстрадная спявачка, у 2014 годзе дэбютавала на сцэне Вялікага тэатра Расіі.

## ОПЕРНАЕ

У Вялікім тэатры Беларусі 13 красавіка адбудзецца сольны канцэрт Аксаны Волкавай. Голас гэтай беларускай спявачкі ведаюць оперныя меламаны з усяго свету. Выканаўца выступала ў складзе Вялікага тэатра Расіі, ездзіла на гастролі ў Ірландыю, Вялікабрытанію, Іспанію, Італію, Францыю, Данію, Кітай. Яна спявала ў Каралеўскім тэатры «Ковент-гардэн» у Лондане, тэатры «Ла Скала» ў Мілане, брала ўдзел у Міжнародным оперным балі Пласіда Дамінга ў Вашынгтоне, а ў 2013 годзе паспяхова дэбютавала на сцэне нью-ёркскай Метраполітэн-опера. Канцэрт, з якім артыстка выступіць на сцэне Вялікага тэатра Беларусі, называецца «Аксана Волкава — *Solo*». Беларуская публіка пачуе музыку з тых опер, якія пакуль не ўваходзяць у рэпертуар тэатра. У канцэрце возьмуць удзел хор пад кіраўніцтвам галоўнага хормайстра Ніны Ламановіч і аркестр тэатра, калегі Аксаны Волкавай з Вялікага тэатра Расіі, Львоўскай оперы, Саратаўскага, Маскоўскага і беларускіх тэатраў. Прагучаць сцэны ды арыі з опер «Барыс Гадуноў», «Сельскі гонар», «Фаварытка», «Самсон і Даліла» ды іншых.

# ДЗЁРЗКІЯ АДЦЕННІ ДАМІНУЮЦЬ

**Сёлета кафедра графічнага дызайну Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў святкуе сорак год існавання. З нагоды юбілею ў музеі і галерэі «Акадэмія» пры БДАМ ладзіцца выстаўка лепшых дыпломных і курсавых праектаў *«XL»*.**

Такія экспазіцыі выклікаюць цікавасць ужо таму, што іх нельга назваць звычайнымі: арганізатары збіраюць самыя знакавыя аўтарскія творы розных гадоў. «XL» — унікальны мастацкі праект, праз які можна прасачыць, як трансфармаваўся графічны дызайн у краіне, як змяняліся тэндэнцыі ў афармленні мастацкага прадукту. Да ўвагі гледачоў — шырокі дыяпазон твораў: ад графічнага афармлення кніг да фірмовых графічных стыляў, рэкламных плакатаў, тэатральных і кінаафіш. Арганізатары ўпэўнены: выстаўка можа захапіць наведвальнікаў разнастайнасцю аўтарскіх ідэй і канцэпцый.

Вельмі цікава і ў той жа час арганічна суіснуюць экспанаты ў адной прасторы. Калі вы трапіце ў выставачную залу, не адразу зразумееце, дзе тут экспазіцыя ранняя, а дзе — апошняга перыяду: складана адрозніваць аўтарскі почырк і тэматычную накіраванасць у часавых межах. Здаецца, творчыя праекты не губляюць актуальнасці. Розніца толькі ў падачы матэрыялу. Калі раней мастакі выкарыстоўвалі больш спакойныя колеры, то цяпер у прыярытэце — больш дзёрзкія адценні, якія выклікаюць эмоцыі, чапляюць спалучэннем тонаў.



*Усевалад Свентахоўскі. Серыя плакатаў «Цені старога горада», 1993 г.*

Што выбірае моладзь? Студэнты спрабуюць прааналізаваць, як на жыццё ўплывае вайна, як грамадства вяртаецца ў мірны стан і якія псіхалагічныя наступствы пакідае страшны перыяд у соцыуме, у асобных людзей. Ёсць праекты, прысвечаныя гендарнай тэматыцы і адзіноце чалавека ў вялікім грамадстве.

Вельмі цікавая серыя плакатаў Настассі Стальмахавай, прысвечаная Міжнароднаму фестывалю анімацыйнага кіно «Анімаёўка». Тут бачны абсалютна моладзевы падыход! Мы заўважаем, як аўтар імкнецца пазбягаць штампаў, практычна не выкарыстоўвае сімволіку, звязаную з кінематографам, і прыдумляе незвычайнага персанажа — сімвал фестывалю. А вось Настасся Купрэйчык прадставіла серыю плакатаў для Беларускага тэатра «Лялька». Аўтар вельмі мінімалістычна, адной дэталлю дапамагае зразумець тэму і, магчыма, змест спектакля.

Прадстаўлены творы тых, хто не толькі вучыўся на кафедры, але і сёння працуе выкладчыкам Акадэміі мастацтваў. Гэта Усевалад Свенатахоўскі, Уладзімір Даўгяла, Юрый Тарэеў, Уладзімір Цярэнцьеў, Наталля Коўш, Ганна Мельнікава ды іншыя. Імёны гэтых майстроў вядомыя не толькі ў нашай краіне, але і за мяжой. Многія неадноўчы выконвалі заказы міжнародных кампаній.

Калі гаварыць пра графічны дызайн, то трэба разумець: гэта асобная пляцоўка творчасці, дзе вялікую ролю адыгрывае канцэпцыя. У сённяшніх рэаліях графічны дызайн развіваецца вельмі хутка. Гэта сведчанне таго, што аўтары імкнуцца знайсці новыя творчыя шляхі.

Кафедра графічнага дызайну ўвогуле практычна самая папулярная сярод абітурыентаў Акадэміі мастацтваў. Спецыяльнасць перспектыўная: выпускнікі кафедры паспяхова працуюць у самых розных кірунках візуальнай камунікацыі. Як адзначаюць выкладчыкі, хоць сёння графічны дызайн робіцца за кошт розных камп'ютарных праграм, студэнтаў усё роўна вучаць ствараць рукамі. Асновы малюнка, кампазіцыі — галоўны прыярытэт. Ды і самі студэнты імкнуцца спачатку зразумець тэхналогію працэсу. Большасць з іх выязджаюць па спецыяльных праграмах за мяжу, каб зразумець, як графічны дызайн развіваецца ў іншых краінах, каб атрымаць досвед для новых арыгінальных праектаў.



*Міхаіл Драко. Серыя плакатаў «Этнаграфія Палесся», 1992 г.*

**Вікторыя АСКЕРА**

## Культурны ракурс



Пяць драўляных цэркваў Брэсцкай вобласці плануецца ўключыць у спіс Сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКА. Сярод прэтэндэнтаў на высокі статус — такія аб'екты культавага драўлянага дойлідства Палескага рэгіёна, як тры бязвежавыя храмы — Мікіцкая царква ў вёсцы Здзітава Жабінкаўскага раёна, царква Параскевы Пятніцы ў вёсцы Збірогі і Міхайлаўская — у вёсцы Чэрск Брэсцкага раёна. Вялікую каштоўнасць уяўляюць Міхайлаўская царква ў вёсцы Сцяпанкі Жабінкаўскага раёна (тып базілікі) і двухвежавая царква Параскевы Пятніцы са званіцай у вёсцы Дзівін Кобрынскага раёна.

Кожны з гэтых драўляных храмаў, пабудаваных у XVII — XVIII стагоддзях, унікальны па сваёй сутнасці. Перш за ўсё тым, што іх канструкцыі змяняліся мінімальна, пабудовы захавалі першапачатковы выгляд і адлюстроўваюць рысы мясцовай архітэктурнай школы.

Асабіста ў мяне вялікую цікавасць выклікала царква Святой Параскевы Пятніцы, якая ўзвышаецца пры ўездзе ў Дзівін на галоўнай вуліцы паселішча. Гэта адзін з нешматлікіх праваслаўных храмаў, які размешчаны алтаром на паўночны захад, бо па царкоўных канонах алтар заўсёды звернуты на ўсход.

Дзівінскую царкву ўзвялі ў 1728 годзе (па іншых крыніцах — у 1740-м) намаганнямі Яна Антонія Ваяводскага. Згодна з захаванымі звесткамі, 5 сакавіка 1876 года ўказам Сінода Пятніцкі прыход быў закрыты, зачынілі і храм, прыпісаўшы яго да Дзівінскай Успенскай царквы. Але праз восем гадоў указам таго ж Сінода Пятніцкі прыход і царкву аднавілі і прызналі іх самастойнымі. Прычына такіх дзеянняў невядомая. А царкву давялося капітальна рамантаваць. Дарэчы, за свой доўгі век храм некалькі разоў перабудоўваўся.

У Першую сусветную царкву крыху пашкодзіў пажар. Ды яшчэ кайзераўскія салдаты тры гады выкарыстоўвалі храм у якасці казармы. У 1917 годзе службу аднавілі. Так было да 1962 года, але падчас хрушчоўскай адлігі на царкву на тры дзесяцігоддзі павесілі замок. Часам мясцовае сельпо захоўвала тут нейкія прадукты. Наноў адрамантавалі храм у 1990 годзе. А праз год з-за наплыву вялікай колькасці людзей царкву адкрылі.

Легенда распавядае, што падчас апошняга падзелу Рэчы Паспалітай у 1794 годзе набажэнства за паўстанцаў у храме адслужыў сам Тадэвуш Касцюшка. Згодна з другім паданнем, у верасні гэтага ж года ў дзівінскай царкве маліўся Аляксандр Сувораў, ідучы ваяваць з паўстанцамі. Бітва адбылася пад Крупчыцамі (Жабінкаўскі раён) 17 верасня 1794 года...

**Вера СТРОК**

***Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў № 2 нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.***

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,
грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,
рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by
Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.zviazda.by
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.
Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ
Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка
Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова
Нумар падпісаны ў друк
30.03.2017 у 11.00
Ум. друк. арк. 3,72
Наклад — 1624.
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013
Заказ — 979
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы прымаюцца толькі ў электронным выглядзе, не вяртаюцца і не рэцэнзуюцца. Аўтары паведамляюць прозвішча, імя і імя па бацьку, пашпартныя звесткі, месца працы, адрас з індэксам. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі аўтараў публікацый.







ISSN 0024-4686